№ 37 (922) 7 кастрычніка 2015
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

Дарэчы

## Аляксандр Лукашэнка застанецца кіраўніком Беларусі. Дакладныя лічбы вам паведамяць 12 кастрычніка

# Лукашэнка: Гаворкі пра размяшчэнне расійскай авіябазы не вялося

Нам патрэбны свае ўзбраенні, сказаў ён. **Старонка 3.**




**«Я не хачу, каб па маёй зямлі хадзілі чужыя салдаты». У Мінску прайшоў мітынг супраць авіябазы. Старонка 3.**

Ноў-хау

## У Мінску прапала 230 тысяч выбарцаў

Насельніцтва расце, а колькасць выбарцаў нібыта змяншаецца. **Старонка 2.**




## Міністр аховы здароўя дабудоўвае катэдж за калючым дротам



У дадатак да апартаментаў у Драздах. Расследаванне «Нашай Нівы». **Старонка 4.**

### Мітрапаліта Паўла з Беларусі перавядуць у іншую епархію?

Такія размовы ходзяць у праваслаўнай царкве. **Старонка 7.**

## Рубінаў як люстэрка беларускай эвалюцыі

Піша Алесь Пашкевіч. **Старонка 10.**

## Чалавек ідзе дахаты

Піша Васіль Герасімчык. **Старонка 15.**

# У Мінску прапала 230 тысяч выбарцаў

**Насельніцтва расце, а колькасць выбарцаў нібыта змяншаецца.**



У Мінску сустракаюцца налепкі за байкот выбараў.

Адна з апошніх інтрыг сёлетняй прэзідэнцкай кампаніі — яўка выбарцаў. Якія лічбы будуць запісаныя ў выніковыя пратаколы?

Паводле афіцыйных дадзеных, у парламенцкія выбары 2012 года ў Мінску атрымалі бюлетэні 59,2% выбарцаў. Пры гэтым назіральнікі адзначалі, што рэальныя лічбы нашмат ніжэйшыя.

Прэзідэнцкія выбары выклікаюць большы інтарэс, чым парламенцкія і мясцовыя. Аднак частка апазіцыі заклікае да байкоту, і пры агульнай апатыі грамадства ўчасткі могуць быць паўпустымі, асабліва ў Мінску.

Улада не хавае сваю насцярогу з гэтай нагоды. «Мяне хвалюе больш за ўсё нават не вынік выбараў, а ці прыйдзе выбаршчык. Гэта з'яўляецца самым галоўным. Тое, што працаваць над яўкай трэба — гэта абавязкова», — прызнаецца старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына.

Лічба яўкі — гэта суадносіны тых, хто атрымаў выбарчыя бюлетэні, і тых, хто ўнесены ў спісы для галасавання.

Узняць яе можна двума спосабамі. Па-першае, заахвочваць грамадзян прыйсці на ўчасткі. Гэтым дзяржаўныя СМІ займаюцца штодня. Клічуць галасаваць і ўсе «канкурэнты» Лукашэнкі.

Але ёсць і іншы просты спосаб — занізіць колькасць выбарцаў у спісах. Простая матэматыка: калі, напрыклад, прагаласуе 4 з 8 мільёнаў чалавек, яўка складзе 50%. Але калі заявіць, што прагаласавала 4 з 6 мільёнаў, то яўка дасягне 67%.

Год за годам насельніцтва Мінска прырастае. Па стане на пачатак 2015 года ў сталіцы пражывала 1,94 мільёна чалавек (тут і далей — звесткі Белстата). У параўнанні з папярэднімі прэзідэнцкімі выбарамі лічба вырасла на 95 тысяч. Аднак пры гэтым колькасць выбарцаў... зменшылася амаль на 20 тысяч чалавек.

Разбярэмся, хто мае права галасаваць на выбарах прэзідэнта. Паводле Выбарчага кодэкса, гэта грамадзяне Беларусі, якія дасягнулі 18 гадоў. Не бяруць удзел недзеяздольныя грамадзяне; тыя, хто ўтрымліваецца ў месцах пазбаўлення волі і пад вартай.

Пачынаем лічыць тых, хто не можа галасаваць. Галоўная група — непаўналетнія. Іх у Мінску пражывае 340 тысяч. Апроч іх, на ўліку у пашпартных сталах стаіць крыху менш за 50 тысяч замежных грамадзян.

У цэлым па краіне пад вартай знаходзіцца каля 30 тысяч чалавек. Колькасць псіхічна хворых на шызафрэнію і тых, хто мае разумовую адсталасць, не перавышае 50 тысяч чалавек (прычым зусім мала хто з іх пазбаўлены выбарчага права).

Статыстыка асуджаных і недзеяздольных непасрэдна па сталіцы адсутнічае. Але 1/5 ад іх колькасці (прыблізная доля Мінска) складае ўсяго 16 тысяч чалавек.

Такім чынам, у спісах выбарцаў па Мінску павінна быць каля 1,53 мільёна чалавек. У Цэнтрвыбаркама лічбы іншыя. Тэрытарыяльныя камісіі налічылі 1,3 мільёна выбарцаў (звесткі з сайта ЦВК). Куды прапала 230 тысяч чалавек?

Анамальнасць лічбаў лепш за ўсё адсочваць па Фрунзенскім раёне. У астатніх раёнах у спісы выбарцаў занесена 69–73% жыхароў (выключэнне — Кастрычніцкі раён з 79%).

А вось у Фрунзенскім — толькі 52,4%. Няўжо кожны другі там — непаўналетні, замежнік ці сядзіць у калоніі? Тамтэйшыя мікрараёны досыць актыўна забудоўваюцца, але ж не перападжаюць у новабудоўлі дзеці без бацькоў!

У параўнанні з папярэднімі прэзідэнцкімі выбарамі насельніцтва Фрунзенскага раёна павялічылася на 75 тысяч чалавек, пры гэтым дадалося толькі 8 тысяч новых выбарцаў.

Фрунзенскую раённую камісію ўзначальвае Зінаіда Жаголкіна. На гэтай пасадзе яна кіруе выбарчым працэсам ажно з пачатку 2000-х. Намесніца кампаніі па рамонце абутку нават атрымала ўказам Аляксандра Лукашэнкі медаль за «ўзорнае выкананне службовых абавязкаў».

Жаголкіна тлумачыць, што спісы выбарцаў узгадняліся з міліцыяй. Таму, маўляў, гэта дакладныя звесткі.

Сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік не гатовы каментаваць лічбы канкрэтнай выбарчай акругі. Але якая доля насельніцтва, з ягонага досведу, звычайна мае выбарчае права? «Давайце разважаць лагічна. У Беларусі жыве каля 10 мільёнаў чалавек. Выбарцаў — 7 мільёнаў чалавек. Значыцца, выбарцаў у сярэднім каля 70%», — праводзіць простыя разлікі Лазавік.

Чым жа патлумачыць неверагодныя лічбы ў Фрунзенскім раёне? Каардынатар кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Уладзімір Лабковіч нагадвае, што менавіта на тэрыторыі гэтага раёна на папярэдніх парламенцкіх выбарах апазіцыя ладзіла кампанію актыўнага байкоту.

Тады, паводле афіцыйных дадзеных, у дзень галасавання на ўчастку пратэстнай «Акругі-101» прыйшло толькі 36% зарэгістраваных выбарцаў. Сітуацыю нібыта ўдалося выправіць за кошт лічбаў датэрміновага галасавання — 20% і хатняга галасавання (1,5%; роўна (!) 1000 чалавек). Пры гэтым назіральнікі фіксавалі значнае адрозненне паміж афіцыйнымі лічбамі і рэальнай колькасцю выдадзеных бюлетэняў. «Антыбайкотныя» спісы выбарцаў маглі перайсці і на прэзідэнцкія выбары.

**Ягор Марціновіч**

## Кіяскёркі змагаюцца з налепкамі «Байкот»

Кіяскёркі ў Мінску атрымалі распараджэнне правяраць сцены кіёскаў на налепкі з заклікам да байкоту. Гэтую інфармацыю «Наша Ніва» атрымала ад дзвюх супрацоўніц, якія працуюць у розных сетках кіёскаў.

Жанчынам прадпісана раз на гадзіну выходзіць з кіёска, абыходзіць яго па перыметры і здзіраць налепкі ў выпадку іх з'яўлення.

Паводле нашых звестак, задача такой жа інтэнсіўнасці пастаўлена перад дворнікамі адносна дошак аб'яваў і сцэнаў на замацаваных за імі ўчастках.

Крытыка тых, хто заклікае да байкоту выбараў, складае таксама галоўны змест дзяржаўных газет за апошні тыдзень.

Нешматлікія налепкі з заклікам да няўдзелу ў выбарчым спектаклі тым не менш сустракаюцца на стэндах і афішах у Мінску.

**Сяргей Гезгала**



### Сцісла

**Прарэктарам духоўнай акадэміі стаў аспірант першага курса**

Прарэктарам Мінскай духоўнай акадэміі па адміністрацыйна-гаспадарчай і фінансава-эканамічнай рабоце прызначаны іераманах Сергій (Брыч), які скончыў сёлета завочнае аддзяленне Мінскай духоўнай семінарыі і паступіў на першы курс аспірантуры гэтай акадэміі. Сергій быў набліжаны да мітрапаліта Паўла і суправаджаў яго ва ўсіх паездках.

**Памёр пісьменнік Алесь Савіцкі**

Пра смерць напісаў у сваім фэйсбуку паэт Віктар Шніп. «5 кастрычніка на 91-м годзе жыцця памёр пісьменнік Алесь Савіцкі, — напісаў ён. — Ганаровы грамадзянін горада Полацка. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Алесем Савіцкім напісана шмат цікавых твораў. Асаблівай папулярнасцю ў юных чытачоў карыстаецца аповесць-казка «Радасці і нягоды залацістага карасіка Бубліка».

**Кот уратаваў сям'ю**

У Полацку маладая сям'я ўратавалася з палаючага дома. 26-гадовая гаспадыня прачнулася ад таго, што кот драпаў яе па твары, і пабачыла моцнае задымленне ў пакоі. Жанчына разбудзіла свайго мужа. Аказалася, што веранда ўжо цалкам была ахоплена агнём, і выхад з дому заблакаваны. Сям'я выбралася праз акно.

**СГ**

### Апытанні на nn.by

**Ці ўхваляеце Вы ваенную аперацыю Расіі ў Сірыі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 275 | 17% |
| Не | 1010 | 61% |
| Гэта не наша, не беларусаў, справа | 361 | 22% |

Прагаласавала 1646 карыстальнікаў.

### Рэкамендуем

**Дух гарадзенскіх вуліц**

Фотаздымкі Сяргея Гудзіліна. **Глядзіце на nn.by**

### Самае чытанае на nn.by за 30 верасня — 6 кастрычніка

1 Мікалай Лукашэнка паказаў дзіўны жэст старэйшым братам

2 «Гэта вайна і акупацыя краіны»: у Мінску прайшоў народны сход супраць расійскай авіябазы

3 У Мінску 15-гадовая ліцэістка выкінулася з балкона, пакінуўшы перадсмяротную запіску «Укантакце» на беларускай мове

4 Расія нанесла першы авіяўдар у Сірыі: па апазіцыі, а не па Ісламскай дзяржаве

5 Аляксандр і Мікалай Лукашэнкі сфатаграфаваліся з Баракам Абамам

6 На «Малітву за Беларусь» Лукашэнка сабраў кіраўнікоў усіх канфесій і сваіх трох сыноў

7 Апублікаваныя відэа расійскіх авіяўдараў па Сірыі, зробленыя расійскімі пілотамі і сірыйскімі жыхарамі

8 Беларускія механікі, якія затыкалі выхлапную трубу, парвалі інтэрнэт ВІДЭА

9 Па велічыні заробку беларусы апусціліся ў Еўропе на трэцяе месца з канца

10 Галыгін «прыпячатаў» Меркель на НТВ

# «Я не хачу, каб па маёй зямлі хадзілі чужыя салдаты»

4 кастрычніка на плошчы Свабоды ў Мінску адбыўся народны сход **супраць расійскай авіябазы**, якую Крэмль плануе размясціць у Беларусі ўжо налета.

Акцыю арганізавалі Статкевіч, Някляеў і Лябедзька. Прысутных было чалавек з 500, у руках людзі трымалі бел-чырвона-белыя сцягі і сатырычныя плакаты з Пуціным.

«Небяспека не казачная, не фантастычная, — казаў на пачатку сходу Някляеў, — у Крыме была расійская база, адкуль захапілі частку тэрыторыі Украіны. Калі там было такое, то чаму ў нас не можа быць? Мы прыйшлі сказаць гэтаму «Не».

Кожны са спікераў акцэнтаваў увагу на тым, што афіцыйная прычына размяшчэння базы — «абарона паветраных межаў саюзнай дзяржавы» — выглядае сумніўна: маўляў, ні Польшча, ні Літва не збіраюцца нападаць на Беларусь. Ад каго тады нас збіраюцца бараніць?

«Не дапусцім гэта дзеля будучыні нашай краіны, дзеля будучыні нашых дзяцей», — заклікалі палітыкі.

А Анатоль Лябедзька яшчэ і прыгадаў правальны Будапешцкі мемарандум, які не гарантаваў цэласнасць Украіне і, відаць, ужо не гарантуе бяспекі для Беларусі.

З такімі словамі прамоўцаў натоўп быў цалкам салідарны — людзі самі пачыналі скандаваць «Не — вайне» і «Жыве Беларусь». Шмат хто трымаў у руках плакаты з заклікамі да мірнага неба над Беларуссю і недапушчэння пераўтварэння краіны ў мішэнь.

«Выбачайце, што гавару паруску, я шараговая грамадзянка, не сябра партый, прыйшла сюды, каб выказаць свой пратэст супраць расійскіх войскаў», — эмацыйна расказвала журналісту «Нашай Нівы» жанчына сярэдняга веку. — Я не хачу, каб па маёй зямлі хадзілі чужыя салдаты — мяне абароняць свае».




### Лукашэнка: Гаворкі пра размяшчэнне расійскай авіябазы не вялося. Яна нам не патрэбная

Пра гэта заявіў кіраўнік дзяржавы, адказваючы на пытанні падчас наведвання новага ўчастка другой Мінскай кальцавой аўтадарогі, перадае БелТА.

«Я назіраю ў апошні час крыкі нашай апазіцыі з нагоды размяшчэння расійскай авіябазы на тэрыторыі Беларусі. Я нічога пра гэта не ведаю. Чалавек, які павінен прымаць гэтае рашэнне, — я пра гэта нічога не ведаю», — адзначыў ён.

«Нам не трэба база сёння. Тым больш вайскова-паветраныя сілы. Нам патрэбны пэўныя ўзбраенні. Пра што я публічна таксама гаварыў Пуціну і раней Мядзведзеву», — дадаў беларускі лідар.

«Нам патрэбны самалёты, а не базы сёння. У нас выдатныя лётчыкі, у нас добрая школа лётчыкаў вайсковых, грамадзянскіх. І навошта мне ствараць базу? — адзначыў прэзідэнт. — Навошта мне сёння завозіць сюды самалёты і лётчыкаў іншых дзяржаў? А свае што будуць рабіць?»

«Проста мяне здзіўляе і нават у нейкай ступені абурае і крыўдзіць, навошта гэта было расейцам сёння ўкідваць у СМІ? Можа, непакояцца, што мы сапраўды на Захад сыходзім, каб падкінуць гэтую тэму, каб Захад пачаў у нас пытацца або сумнявацца ў тым, што мы з імі хочам нармалізацыі адносін?» — заявіў беларускі лідар.

Ён таксама папярэдзіў, што «будуць рознага роду правакацыі, з любога боку». «Будзьце вельмі акуратныя. Не расслабляйцеся», — сказаў Лукашэнка.

Прыкладна такіх жа думак былі і іншыя, усіх непакоіла магчымасць вайны і акупацыі — спадарожнікаў расійскіх войскаў.

Таксама па завядзёнцы на акцыі з’явіліся тры міліцыянты, якія праваліся праз натоўп да прамоўцаў, каб скласці на тых пратаколы. Пры з’яўленні людзей у форме мітынгоўцы пачалі гучна скандаваць «Ганьба, ганьба», але тыя ўсё адно склалі пратаколы на ўсіх, хто трымаў слова на сходзе.

Яшчэ варта адзначыць стварэнне новага руху «За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі». Гэты рух абвесціў Някляеў і прапанаваў для пачатку запісаць туды ўсіх, хто прыйшоў на гэтую акцыю. Хтосьці потым з гумарам адзначаў, што пры гэтых словах усіх супрацоўнікаў у цывільным перадзёрнула.

Таксама на сход прыйшло шмат моладзі — значна больш, чым на папярэднюю акцыю тыдзень таму. Але праз тое, што ў апошніх шэрагах палітыкаў было амаль не чуваць, людзі сталі ў кола і пачалі спяваць «Магутны Божа» і «Пагоню».

А падсумоўваючы вынікі народнага сходу, Мікола Статкевіч заклікаў усіх на наступную сустрэчу 10 кастрычніка і даволі смела заявіў, што калі ў гэты дзень будзе багата людзей, то яны пяройдуць на іншую плошчу, каб «вырашыць, што рабіць далей».

18 верасня прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін падпісаў распараджэнне аб падпісанні пагаднення паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь аб расійскай авіяцыйнай базе на тэрыторыі Беларусі і даручыў Міністэрству абароны Расіі правесці з удзелам расійскага МЗС перамовы з беларускім бокам. Раней прэм’ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў заявіў, што пагадненне аб размяшчэнні ў Беларусі расійскай авіябазы будзе падрыхтавана і падпісана ў камфортныя для Мінска і Масквы тэрміны.

Ад афіцыйных беларускіх уладаў пакуль нічога не чуваць: ні прэзідэнт, ні Міністэрства абароны ніяк гэта не каментуе. Адзіная сіла, якая рашуча выступае супраць такога пашырэння вайсковага супрацоўніцтва — гэта беларуская апазіцыя.

**Арцём Гарбацэвіч**

Цытата



## Ярмошына: Я лічу сябе рускім чалавекам

«Я сябе лічу рускім чалавекам. Я вырасла ў рускай сям’і, у рускамоўным асяроддзі вайскоўцаў і затым атрымала вышэйшую адукацыю ў Расійскай Федэрацыі. Я думаю па-руску, таму і размаўляю на гэтай мове. Аднак у грамадзян ніколі не ўзнікала праблем у разуменні таго, што я ім кажу», — сказала старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына падчас анлайн-канферэнцыі на сайце *naviny.by*.

# Дэбаты, якія не выявілі пераможцу

Ніхто з кандыдатаў **не выглядаў пераканаўча** на тэлебачанні.

3 кастрычніка на тэлеканале «Беларусь-1» адбыліся тэледэбаты паміж кандыдатамі ў прэзідэнты. Праўда, у студыю прыйшлі толькі двое з чатырох. Лукашэнка звыкла ігнаруе такія мерапрыемствы, а Гайдукевіч спаслаўся на сустрэчу з выбарцамі ў Гомелі, адправіўшы замест сябе сына.

Студыя была выкананая ў насычаным сінім колеры. Яшчэ пры такім асвятленні кандыдаты ў прэзідэнты выглядалі не надта прывабна. Вёў дэбаты журналіст Дзмітрый Бачкоў, які асабліва не ўмешваўся ў ход падзей. Толькі аднойчы ён відавочна спрабаваў выцягнуць з Тацціяны Караткевіч адказ, ці будзе яна арыентавацца на еўраінтэграцыю. Кандыдатка не дала ўцямнага адказу.

Канечне, найперш было цікава, як справіцца з дэбатамі Таццяна Караткевіч, бо чаго можна чакаць ад Гайдукевіча-малодшага і Улаховіча? Караткевіч на іх фоне была, вядома, мацнейшай, але не заўсёды пераканаўчай.




У Тацціяны Караткевіч было некалькі яркіх успышак, напрыклад, калі яна сказала, што ў сітуацыі ў эканоміцы вінаватае «бяздзеянне ўладаў, а не сусветны крызіс ці народ», або калі тлумачыла, чаму Лукашэнка не прыйшоў на дэбаты, «бо ён не хоча размаўляць з выбарцамі». Але разам з гэтым было вельмі шмат агульных словаў. Відавочна, што Караткевіч усяляк імкнулася не атаясамліваць сябе з радыкальнай апазіцыяй. Яна нават сказала, што ў выпадку яе прыходу да ўлады, адносіны з Расіяй будуць «развівацца ў рамках Еўразійскага саюза».

Таццяна, выглядае, баялася адарвацца ад хатніх напрацовак, экспромты ёй даюцца не вельмі проста. Калі яна звярталася да іншых удзельнікаў дэбатаў, то выкарыстоўвала беларускую мову. Пры адказах на пытанні гаварыла па-руску.

Затое Алег Гайдукевіч якраз усяляк і спрабаваў паказаць, што ён сапраўдная апазіцыя. Маўляў, толькі ягоная партыя можа забяспечыць змены ва ўладзе. Гайдукевіч напрыканцы нават выгукнуў «Жыве Беларусь». У твітары жартавалі, што выклікае дысананс, калі былы начальнік Фрунзенскага РУУС прамаўляе «Жыве Беларусь», а яго за гэта не саджаюць на суткі.

Гайдукевіч быў адзіным, хто крытыкаваў апанентаў. Маўляў, калі прыйдзе Караткевіч, то будзе Майдан і хаос, а Улаховіч не лічыцца з беларускай незалежнасцю. Лукашэнку, натуральна, крытыкаваць не асмеліўся. Наадварот, хваліў.

Уся дэмагагічнасць Гайдукевіча ўжывалася з простай мэтай, каб адбіць частку выбарцаў ад традыцыйнай апазіцыі, зблытаўшы арыенціры.

«Мы выйдзем з крызісу толькі разам з Расіяй і толькі дзякуючы ёй», — адразу выпаліў Улаховіч. Праз пару хвілін ён прызнаўся, што з’яўляецца прыхільнікам капіталізму ў эканоміцы, а не сацыялізму.

Улаховіч хваліў усіх: і Караткевіч, і Лукашэнку, і Гайдукевіча. Але хто ўсур’ёз можа ўспрымаць словы гэтага чалавека?

«Паводле чыста суб’ектыўнага меркавання, ніхто з удзельнікаў дэбатаў не пакінуў нейкага надзвычай яркага ўражання», — лічыць аглядальнік радыё «Свабода» Віталь Цыганкоў.

Апытанні на сайтах незалежных выданняў таксама сведчаць, што надта ў плюс дэбаты нікому не пайшлі.

**Зміцер Панкавец**

### Апытанне на nn.by

**Хто, па-Вашаму, перамог на тэледэбатах 3 кастрычніка?**

| | | |
|---|---|---|
| Гайдукевіч | 55 | 3% |
| Караткевіч | 335 | 21% |
| Лукашэнка | 163 | 10% |
| Улаховіч | 9 | 1% |
| Ніхто | 217 | 14% |
| Абсурд | 813 | 51% |

Усяго прагаласавала 1592 чалавекі.

# Міністр аховы здароўя дабудоўвае катэдж за калючым дротам

У дадатак да апартаментаў у Драздах **Васіль Жарко** займеў у Мінску дом коштам мільён даляраў.

Сярэднестатыстычны беларускі медык атрымаў у жніўні на рукі менш за $300. Аднак не ўсе работнікі сферы аховы здароўя перабіваюцца ад заробку да заробку. У лесе за Нацыянальнай бібліятэкай міністр Васіль Жарко дабудоўвае вялізны катэдж. Ад цікаўных гасцей будоўля агароджаная плотам з калючым дротам.




## «Тапас» — новы фаварыт

За апошнія гады сталічны будаўнічы рынак істотна змяніўся. Па-першае, значна зменшылася колькасць навабудоўляў. У гэтым вінаваты і крызіс, і жыллёвая палітыка ўладаў, якія ўсё ж прыйшлі да высновы, што Мінск не гумовы.

Па-другое, дзяржава фактычна «вымыла» з рынку дробных прыватнікаў, якія не мелі ўласных будаўнічых магутнасцей. Тыя наймалі для працаў дзяржаўныя будаўнічыя трэсты, пакідаючы сабе прыбытак.

На плыву засталіся адзінкавыя гульцы, гаспадары якіх змаглі адстаяць свой статус. У лідары рынку выбілася група кампаній «Тапас».

Сакрэт яе поспеху звязваюць з асобай 35-гадовага Паўла Белага (№79 у рэйтынгу самых уплывовых і паспяховых бізнэсменаў за 2013 год). Яго называлі намеснікам дырэктара будаўнічага холдынга.

Калісьці Белы быў перспектыўным хакеістам, аднак быў вымушаны скончыць кар'еру праз траўму спіны. Цяпер ён — найлепшы нападаючы прэзідэнцкай хакейнай каманды. А ягоны «Тапас» сярод лідараў па колькасці выдзеленых участкаў пад будаўніцтва.



**Васіль Жарко**

Нарадзіўся ў 1956 у в. Леснікі Драгічынскага раёна. Скончыў Юрацішкаўскую медыцынскую вучэльню (1975), Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1984) і Акадэмію кіравання (2008).

Працаваў памочнікам санітарнага доктара ў Івацэвічах (1977), педыятрам Брэсцкай дзіцячай абласной бальніцы (1984—1985), загадчыкам аддзялення Драгічынскай раённай бальніцы (1985—1991), доктарам-інспектарам, намеснікам начальніка ўпраўлення аховы здароўя Брэсцкага аблвыканкама (1991—2002), намеснікам галоўнага доктара дзіцячай абласной бальніцы (2002—2003), дырэктарам санаторыя «Крыніца» (2003), генеральным дырэктарам «Белпрафсаюзкурорта» (2003—2005), в.а. генеральнага сакратара Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа (2005—2006).

З 2006 — міністр аховы здароўя.

Жанаты, мае дачку.



Праект аднаго з катэджаў. Падобны будуецца і ў Жарко.

Право пожизненного наследуемого владения
Описание права, ограничения (обременения) прав: Индивидуальное пр...
Идентификационные сведения о правообладателе: Жарко Василий Иванович, ...
идентификационный номер 3270556C006PB2, гражданство - Республика Беларусь, ...
Пионерская, д.32, кв.11
Доля: 1/1
Срок действия: не установлен
Стоимость обязательств или данные о порядке и условиях ее определения: не указана
Дата государственной регистрации: 20.11.2010 10:44:40
Основание государственной регистрации: Решение местного исполнительного и распорядительного органа (Минский городской исполнительный комитет) от 11.11.2010 №2626/1 О предоставлении ...емельного участка для строительства и обслуживания одноквартирного (блокированного) жилого ...
...(обременения) прав в использовании земель, находящихся в водоохран... ...ов вне прибрежных полос
...(обременения) прав: Водоохранная зона водных объектов




Безназоўны катэджны пасёлак будзе знаходзіцца на наваствоpанай вуліцы Яўгена Глебава.

## Кватэры для блізкага кола Лукашэнкі

«Тапас» у адзіночку забудоўвае раён за Нацыянальнай бібліятэкай, побач са Сляпянскай воднай сістэмай. Па прэстыжнасці саступае толькі Драздам, дзе жывуць чыноўнікі і іншыя асобы, набліжаныя да Аляксандра Лукашэнкі.

Тут «Тапас» узводзіць малапавярховыя жылыя комплексы — у кожным доме «Аквамарына» і «Парк-Сіці» па 10—20 апартаментаў плошчай каля 150 м².

Большасць кватэр раскупілі спартсмены (напрыклад, былыя і цяперашнія зоркі БАТЭ Аляксандр Глеб, Ягор Філіпенка і Сяргей Крывец) і непублічныя бізнэсмены, аднак сярод гаспадароў ёсць і іншыя знакавыя персоны.

Напрыклад, тут пасялілася асабістая доктарка Лукашэнкі Святлана Канашэнка, а таксама сям'я былога кіраўніка прэзідэнцкай аховы Андрэя Уцюрына. Іх кватэры каштуюць каля $500 тысяч.

Цікава, што некалькі апартаментаў значацца за Кіраўніцтвам справаў прэзідэнта.

## Катэджы за мільён

«Тапас» спецыялізаваўся на будаўніцтве кватэр, але цяпер узяўся яшчэ і за катэджы. У лесе за Нацыянальнай бібліятэкай, побач са сваім жа «Парк-Сіці», былі арандаваныя 2,5 гектара зямлі. Паводле праекта, тут мусяць паўстаць 14 катэджаў.

«Тапас» будуе дамы, падводзіць у іх святло, ваду і газ, а таксама выконвае чарнавую аддзелку. Катэджы каштуюць ад $640 тысяч да $1,2 мільёна ў залежнасці ад плошчы (яна вагаецца ад 440 да 790 квадратных метраў). Зямля пад імі перадаецца купцам у арэнду на стагоддзе.

Для «Тапаса» гэта надзвычай выгадны праект. Паводле дамовы з Мінгарвыканкам, за арэнду зямлі даводзіцца плаціць фіксаваныя мізэрныя грошы — каля 5 мільёнаў рублёў на месяц за ўсю плошчу.

## Спецыяльны дазвол Жарко

На дадзены момант на продаж выстаўленыя пяць катэджаў. Ці былі прададзеныя астатнія дамы і хто стаў іх гаспадарамі, пакуль невядома.

Аднак «Наша Ніва» знайшла дзіўны дакумент, датычны аднаго з участкаў у катэджным пасёлку.

Яшчэ ў лістападзе 2010 Мінгарвыканкам прыняў рашэнне №2626/1, паводле якога 15 сотак выдзялялася міністру аховы здароўя Васілю Жарко ў пажыццёвае валоданне з правам перадачы ў спадчыну. Тэрытарыяльна ягоны надзел знаходзіцца ўнутры катэджнага пасёлка «Тапаса», але на паперах выведзены за ягоныя межы.

Ці меў Васіль Жарко патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў? За год да выдзялення ўчастка сям'я чыноўніка набыла трохпакаёвую кватэру ў новым доме па вуліцы Піянерскай у Драздах. Яе рынкавы кошт складае каля $500 тысяч.

Плошча той кватэры — больш за 120 м². Па тагачасных нарматывах гэтага б хапіла, каб забяспечыць жыллём мінімум васьмярых чалавек. Паводле біяграфіі, у сям'і Жарко жонка, дачка (з мужам) і двое ўнукаў.

Аднак нават калі міністру і не хапала б метраў, атрымліваць участак ён не мусіў. Па агульным правіле зямля ў Мінску без правядзення аўкцыёнаў выдзяляецца толькі шматдзетным сем'ям.

## Вялікі дом для міністра

У пасёлку «Тапаса» спраектаваныя чатыры меншыя катэджы і дзесяць вялікіх. Жарко будуе якраз такі вялікі. Кошт такога дома — $1,03 мільёна. Невядома, ці плаціў за яго штосьці міністр.

Убачыць элітную будоўлю зблізку складана. Заезд у катэджны пасёлак кантралюе ахова «Тапаса». Па бакавым перыметры будоўля мяжуе з іншымі катэджамі, вакол якіх узведзены высокі плот.

Таму адзіная магчымасць падысці да дома Жарко — з лесу. Раней тут была вузкая дарога да дачы кіраўніка Міністэрства дзяржаўнай бяспекі БССР Лаўрэнція Цанавы. Цяпер лес высякаюць, каб пашырыць дарогу.

З задняга боку катэджа Жарко яшчэ няма суцэльнага плоту, затое над агароджай нацягнуты калючы дрот.

У інтэрнэце апублікаваны тыпавы праект такога ж дома, які будзе і ў міністра. Адзіная розніца ў тым, што Жарко, магчыма, застанецца без басейна.

Катэдж двухпавярховы, але не кампактна-квадратны, а выцягнуты. Ягоная агульная плошча перавышае 640 м².

На першым паверсе будзе вялікая зала-гасцёўня, да якой прымыкаюць кухня і камінная. Агулам гэта амаль 100 м². З каміннай можна перайсці ў кіназалу і ў трэнажорку. Непадалёку спраектаваны і рабочы кабінет. А вось пакой для «абслугі» маленькі — усяго 6 м².

На другім паверсе можна знайсці дзве спальні і два дзіцячыя пакоі (у кожным свой санвузел і своя гардэробная).

Дом Жарко ўжо дабудоўваецца. Выглядае, што засталося скончыць фінальнае адштукаванне.

**Ягор Марціновіч**

# Як студэнты і іх выкладчыкі стваралі масоўку для Лукашэнкі

**Увечары 2 кастрычніка ў Мінску пры ўдзеле Аляксандра Лукашэнкі прайшла «Малітва за Беларусь».**

Масоўку спешна збіралі па школах, універсітэтах і на прадпрыемствах сталіцы.

Па школьніках, якія за рукі ішлі за настаўнікам, лёгка зразумець, у якім баку знаходзіцца Усіхсвяцкая царква — усе шляхі арганізаваных груп вядуць туды.

«Мала нам хакея і выбараў, — разважае малады настаўнік. — Цяпер вось яшчэ прыдумалі, маліцца ўсім». «Усё праходзіць — пройдзе і гэта», — адказвае больш дасведчаная калега.

Бліжэй да царквы ўдзельнікаў мерапрыемства прапускаюць праз металадэтэктары.

Як адсюль збегчы — самая папулярная тэма ў тых, хто прыйшоў на «Малітву за Беларусь». Рэдкі момант, калі і школьнікі, і іх настаўнікі думаюць у адным кірунку.

«Маладыя людзі, а куды гэта вы сыходзіце?» — спыніў кампанію студэнтаў пажылы мужчына ў акулярах.

«Ну, мы вернемся. Мы проста ходзім-ходзім, але мы не сыходзім!»

«Вы адкуль? Уручча? Так, Уручча. Усе прыйшлі, усе стаяць. І вы стойце!» — строга паглядзеў начальнік.

Падыходжу да яго, каб даведацца, ці не ён арганізаваў масоўку. «Якую масоўку? Няма ніякай масоўкі. Чаму я спыніў гэтых хлопцаў? Ды яны самі спыніліся. Я ўвогуле нічога не ведаю».

У гэты час на экранах у царкве паказваюць фільм пра савецкіх салдат, якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны ў Германіі, Аўстрыі, Польшчы. «Іх грэла думка пра родны дом», — вяшчае голас дыктара.

«А мяне ўжо нічога не грэе», — каментуе дзяўчына, якая стаіць побач.

«Вельмі холадна» і «Хачу есці» — яшчэ дзве папулярныя тэмы для абмеркавання на мерапрыемстве. Арганізатары, падобна, разлічвалі, што гледачоў задаволіць духоўная ежа. Працавала ўсяго дзве палаткі з напоямі і ежай. «Бясплатнага нічога няма. Чай — 2500, бутэрброды — 3900», — паўтараў касір. Цалкам «сацыяльныя кошты».

Больш за гадзіну прайшло, пакуль у царкву прыехаў прэзідэнт. Па рыторыцы мерапрыемства нагадвала чарговы парад да 9 Мая. Размах, вядома, меншы, але лозунгі тыя ж.

Лукашэнка ўзяў з сабой на «Малітву» ўсіх сыноў. Гэта, вядома, усяляк абмяркоўвалася ў масоўцы.

Наогул, столькі крытыкі Лукашэнкі, як на «Малітве за Беларусь», я не чула ні на адным апазіцыйным мітынгу. Здаецца, яму ўспомнілі ўсё: і дэвальвацыю, і рост цэн, і жабрацкія заробкі, і прастой на заводах, і расійскія вайсковыя базы... Мерзлі, крытыкавалі, але не сыходзілі.



**На «Малітву за Беларусь» прыйшлі кіраўнікі чатырох канфесій у Беларусі (праваслаўе, каталіцызм, іслам, іудаізм), а таксама Лукашэнка з трыма сынамі.**

Пакуль мы мерзлі пад акампанемент аркестра Белтэлерадыёкампаніі, Лукашэнка абмяркоўваў глабальныя пытанні (мір ва ўсім свеце, вядома) з прадстаўнікамі розных канфесій у Беларусі. Характэрна, што прадстаўнікоў пратэстантаў на сустрэчы не было.

Пад песню «Малітва», вядомую ў выкананні Мулявіна, Лукашэнка спусціўся да імправізаванай трыбуны. Слова ўзяў кіраўнік БПЦ, мітрапаліт Павел.

«Ваша Экселенцыя, паважаны Аляксандр Рыгоравіч, — так да Лукашэнкі, здаецца, яшчэ ніхто не звяртаўся, — мы стаім на парозе важнага выбару. Ад імя ўсіх праваслаўных хачу выказаць падтрымку вашай палітыцы. Мы за мір і росквіт. Хай квітнее наша Беларусь».

Назваўшы Лукашэнку «нашым бацькам», мітрапаліт Павел папрасіў яго ўзяць слова.

Рыторыка прэзідэнта заключалася ў тым, што самае важнае ў Беларусі — гэта мір. На гэтым, па сутнасці, будуецца ўся яго цяперашняя перадвыбарчая кампанія. Пакольні нават у сваёй праграме ён прызнаў, што ў эканоміцы выхваліцца няма чым, лагічна, што, выступаючы перад народам, ён заявіў: «Калі вайна, не важныя ні прадукты, ні цэны — спытаеце гэта ва ўцекачоў».

Вы спытаеце: а як жа малітва? За дзве гадзіны каля храма Усіх Святых я не ўбачыла ні аднаго чалавека сярод масоўкі, які хоць бы перахрысціўся.

**Адар'я Гуштын, naviny.by**

# Неафіцыйная інфармацыя: краіны ЕС дамовіліся пра зняцце санкцый з Лукашэнкі і беларускіх чыноўнікаў

«2 кастрычніка паслы краін Еўрапейскага Саюза дамовіліся пра зняцце індывідуальных санкцый супраць беларускіх грамадзян і кампаній. Зняцце будзе суправаджацца ўмовамі», — пра гэта напісаў блог B2 — *Bruxelles2*, які адсочвае пытанні замежнай палітыкі і палітыкі бяспекі Еўрасаюза.

Афіцыйнай інфармацыі пра гэта пакуль няма. Раней праходзіла інфармацыя, што афіцыйна санкцыі могуць быць прыпыненыя з 31 кастрычніка, пры ўмове што падчас прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі і пасля іх не адбудзецца рэпрэсій і іншых парушэнняў правоў чалавека і міжнародных нормаў.

Як мяркуецца, у сіле застанецца эмбарга на пастаўку зброі ў Беларусь, а таксама санкцыі ў дачыненні да чатырох службовых асоб, якія, на думку Еўрасаюза, могуць быць датычныя да знікненняў людзей у Беларусі. Гаворка ідзе пра Уладзіміра Навумава, Віктара Шэймана, Юрыя Сівакова і Дзмітрыя Паўлічэнку.

Што да Аляксандра Лукашэнкі, ягоных сыноў і набліжаных да яго асобаў, візавыя абмежаванні супраць іх будуць знятыя, а активы на Захадзе размарожаныя.

**Мікола Бугай**

Трое вядомых былых беларускіх палітвязняў: праваабаронца, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі, кандыдат на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года і лідар Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікола Статкевіч і кандыдат на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года, лідар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Андрэй Саннікаў — накіравалі адкрыты ліст лідарам Еўрасаюза з заклікам захаваць санкцыі ў дачыненні да беларускіх афіцыйных асоб і юрыдычных асоб у поўным аб'ёме.

# «Мы тут, бо ўмеем і ведаем»

**Рэпартаж з участка мільянера Паўла Тапузідзіса.**

Датэрміновае галасаванне ў сталічнай школе №199 пачалося ў час.

У 10:02 я забег у маленькі кабінет з надпісам «участак №69». Члены камісіі якраз атрымалі апошнія інструкцыі, а з кабінкі для галасавання выглядвала галава першага датэрміновага выбарцы.

У склад камісіі запісана 13 чалавек, але я прыйшоў толькі дзеля аднаго з іх. Мільянер Павел Тапузідзіс чарговы раз вылучаны на гэты ўчастак «ад працоўнага калектыву бухгалтэрыі «Тытунь-Інвест».

Але яго на месцы не было. Затое было 7 іншых членаў камісіі, для якіх прынеслі толькі пяць крэслаў. Займаць свабодныя месцы ім было няёмка — іншым жа не хопіць, — таму ўсе стаялі каля сцэнаў.

Скрыня для галасавання была зусім не празрыстай. Звычайная драўляная скрынка з налепленым гербам Беларусі.

Каля яе паставілі стэнд з даведкавай інфармацыяй: біяграфіі кандыдатаў, кантактны нумар Лідзіі Ярмошынай, Канстытуцыя і Выбарчы кодэкс.

Побач прымацавалі ўзор запаўнення бюлетэня. У яго ўнесена тры кандыдаты, усе з рускімі прозвішчамі: Іваноў Іван Іванавіч, Пятроў Пётр Пятровіч і Сідараў (але чамусьці не Сідар Сідаравіч, а Іван Сяргеевіч). Прычым ЦВК рэкамендуе галасаваць менавіта за Пятра Пятровіча.

Усе 13 членаў камісіі працавалі на гэтым жа ўчастку і на папярэдніх выбарах. «Вы ўжо прагаласавалі, хто будзе старшынёй, і выбралі Тапузідзіса?» — паспрабаваў угадаць я. Як выявілася, прагноз аказаўся дакладны.

«А вас прыцягвае менавіта асоба нашага старшыні?» — удакладніла яго намесніца. «Вядома, — не стаў адпірацца я. — Мала дзе ўбачыш, як мільянер лічыць галасы».

Намесніца засмяялася ў адказ.

«У вас ужо такая адпрацаваная схема, усе тыя самыя...» — пачаў я. «Не трэба. У нас мяняліся людзі», — з ноткамі крыўды ў голасе перапыніла мяне яна.

«У сэнсе? У вас у камісіі не мяняўся ніхто. Я паглядзеў спісы за парламенцкія выбары, за мясцовыя і цяперашнія», — абурыўся я. Калі нехта хлусіць, гледзячы проста ў вочы, сумленнаму чалавеку становіцца непрыемна.

«А вас, уласна кажучы, як завуць?» — удакладніў у яе.

«Лапшова Вікторыя Алегаўна, — назвалася маладая жанчына. — Вы ведаеце выдатна, я фігурую ў тым самым спісе, які вы глядзелі».

Таго спісу я пакуль не ведаю на памяць, таму запытаўся, якую арганізацыю прадстаўляе Вікторыя.

«Я з «Тытунь-Інвест». Я працую там», — патлумачыла яна. Відаць, забылася, што, паводле папераў, прыйшла на ўчастак ад Беларускага саюза жанчын.

«А чаму вас паклікала на выбары грамадзянская адказнасць?» — спытаў я. Такое самае пытанне вельмі хочацца задаць Паўлу Тапузідзісу.

«Грамадзянская адказнасць» не зусім... Па-першае, мы ўмеем, падругое, мы ведаем», — афарыстычна адказала Вікторыя Лапшова.

Але ж «Тытунь-Інвест» зарэгістраваны на вуліцы Гусоўскага, ды і Тапузідзіс мае катэдж у Драздах, а не ў Сухараве... Чаму ж менавіта ўчастак №69? Адказу не было.

«Яно само?» — падказаў я. «Так», — пагадзілася Вікторыя.

**Ягор Марціновіч**

# Што адбываецца ў Сірыі: пяць пытанняў і адказаў

На мінулым тыдні Расія ўмяшалася ў грамадзянскую вайну ў Сірыі і пачала бамбіць тэрыторыі, занятыя апазіцыйнымі да Башара Асада групоўкамі. Хтосьці называе гэта авантурай і новым Афганістанам, хтосьці — высакароднай місіяй па выратаванні свету ад Ісламскай дзяржавы. Што ж насамрэч адбываецца? «Наша Ніва» склала спіс адказаў на асноўныя пытанні, каб вы маглі разабрацца ў блізкаўсходнім вінегрэце.

### Хто там супраць Асада?

У Сірыі з 2011 года цягнецца грамадзянская вайна, у якой прэзідэнт Башар Асад імкнецца захаваць уладу ў барацьбе з разнастайнай апазіцыяй. Апазіцыя там вельмі розная.

Частка выступае за дэмакратычныя змены і еўрапейскі тып грамадства — такіх падтрымлівае Захад.

Другая частка — ісламісты. Іх падтрымліваюць Саудаўская Аравія, Катар і Турцыя.

А трэцяя частка — увогуле Ісламская дзяржава. Фактычна, гэта ісламафашысты, гатовыя рэзаць горла ўсім няверным. Яны самі па сабе, а зброі нахапалі ў бяздарных вояк іракскай арміі, якія разбегліся пры першай атацы на Масул. Супраць ІД ваююць абсалютна ўсе. У вайну ўцягнутыя нават курды, якіх без літасці вынішчаюць баевікі ІД. Вось і Расія афіцыйна ўключылася ў вайну праз просьбу Асада дапамагчы ў вайне з ІД. Для Крамля ён — апошні кліент на Блізкім Усходзе, апошні плацдарм на Міжземным моры. У горадзе Тартус, дзе жывуць алавіты, клан Асада, знаходзіцца расійская авіябаза. Таксама сірыйкага дыктара падтрымліваюць шыіцкія Іран і Ірак, бо Асад — алавіт. Гэта рэлігійная плынь у ісламе, блізкая да шыітаў.



### Каго бамбіць Масква?

Пакуль абсалютная большасць авіяўдараў Расіі была па сірыйскай празаходняй апазіцыі, толькі некалькі — па Ісламскай дзяржаве. Пасля першых жа бамбёжак НАТА абвінаваціла Расію ва ўмяшальніцтве ў грамадзянскую вайну пад шырмаю барацьбы з тэрарызмам.

### Чаму Амерыка не скіне Асада?

А яна хоча?

І ці яна можа?

Дактрына Абамы — ваяваць па мінімуме, душыць санкцыямі, хай ваююць іншыя. Чаго амерыканскія салдаты павінны быць ва ўсе дзіркі затычкай? Бамбіць — бамбяць.

Авіяцыя кааліцыі (ЗША, Францыя, Брытанія, Аўстралія, Іарданія, Саудаўская Аравія, Эміраты, Катар, Бахрэйн, Нідэрланды, Данія ды іншыя) нанесла ўжо 7000 авіяўдараў па Ісламскай дзяржаве.

Расійская па стане на аўторак — толькі сотню.

Наземную аперацыю Захад ажыццяўляць не хоча. Можа быць, таму што не можа. Вось у Іраку спрабавалі — і толку мала. Як лілася там кроў пры Хусэйну цурком, так і цяпер ліецца.

### А што там шэйхі?

Рэзка раскрытыкавалі дзеянні Крамля Саудаўская Аравія з Турцыяй. Гэта дзве самыя моцныя суніцкія краіны (разам з таксама суніцкім Егіптам) на Блізкім Усходзе.

Турэцкі прэзідэнт Эрдаган сказаў, што «Расія робіць вялікую памылку».

А некаторыя мулы саудытаў нават абвесцілі Расіі джыхад.

Не ўсе таксама ведаюць, што вайну ў Афганістане супраць СССР аплачвала менавіта Саудаўская Аравія, і на яе тады з'ехаліся ўсе фанатыкі ісламскага свету, у тым ліку Бін Ладэн.

### Ці надоўга там Расія?

Расія заяўляе, што абмяжуецца паветранай аперацыяй. Аднак шмат хто з экспертаў лічыць, што без наземнай аперацыі сітуацыі ў краіне не змяніць — пра гэта гаворыць досвед шматлікіх атак кааліцыі, якія не прынеслі адчувальных вынікаў. У такім выпадку сірыйскі канфлікт рызыкуе стаць новым Афганістанам для Расіі.

Але не для Беларусі — згодна з дамовамі АДКБ, беларускія вайскоўцы могуць удзельнічаць у канфліктах толькі на тэрыторыі краін-сяброў АДКБ. У самой Расіі прапагандысцкая машына прадукуе «адабрамс», тэлебачанне расхвальвае «адзіна правільнае рашэнне». З экранаў гучаць развагі пра тое, што без Сірыі не было б Русі... У прагнозе надвор'я дыктары расказваюць пра тое, што клімат у рэгіёне спрыяе нанясенню паветраных удараў, а аблокі ў раёне Ідліба не перашкодзяць бачнасці лётчыкаў.

Тым часам «добраахвотнікаў-адпускнікоў» перавозяць з Данбаса ў Латакію, а ва ўкраінскім пытанні Крэмль паспешліва прымае ўсе прапановы «Нармандскай чацвёркі». Сам факт правядзення Расіяй ваеннай аперацыі на Блізкім Усходзе цешыць расійскіх шавіністаў. «Мы зноў сталі сусветнай супердзяржавай!» — лічаць яны.

Украіна тым часам адыходзіць на другі план. Аперацыя ў Сірыі схавала правал спробы стварыць «Наваросію».

**Арцём Гарбацэвіч**

**Спіраль гісторыі: 30 верасня**

30 верасня Пуцін заявіў, што не збіраецца пачынаць наземную аперацыю ў Сірыі. Але мае месца сімвалічны факт: у гэты ж дзень, 16 гадоў таму, тагачасны расійскі прэм'ер Уладзімір Пуцін, адказваючы на пытанне, ці можа ён паабяцаць, што Расія не пачне сухапутную аперацыю ў Чачні, сказаў: «Цвёрда абяцаю».

**Расія бамбіць Сірыю старымі некіраванымі бомбамі ФАБ-250**

Фрагмент устаноўкі бомбы пад крыло самалёта з'явіўся ў выпуску навінаў на тэлеканале «Россия».

ФАБ-250 — гэта фугасная некіраваная бомба, якую ўзялі на ўзбраенне яшчэ на пачатку далёкіх 1950-х.

## «ДНР» заявіла, што вайна ў Данбасе скончылася



Паўнамоцны прадстаўнік самаабвешчанай «Данецкай народнай рэспублікі» на перамовах у Мінску Дзяніс Пушылін заявіў, што падпісанне дамовы аб адводзе тэхнікі ў Данбасе калібрам менш за 100 міліметраў азначае спыненне вайны.

«Адбылося пасяджэнне кантактнай групы і двух падгруп. Падгрупа па бяспецы атрымала вымучаны дакумент. Ён быў падпісаны прадстаўнікамі Расіі, АБСЕ, Украіны. Падпісаў яго і (кіраўнік «ДНР») Аляксандр Захарчанка. Пасля гэтага дакумент уступае ў сілу, і гэта можа, на маю думку, сведчыць аб заканчэнні вайны».

Ён выказаў надзею, што «ўсе лакальныя сутыкненні са стралковай зброяй будуць хутка лакалізаваны і спыненыя».

Трохбаковая кантактная група па Украіне падпісала пагадненне аб адводзе гармат калібрам менш за 100 міліметраў ад лініі судакранання бакоў узброенага канфлікту напярэдадні.

Дакумент падпісалі другі прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, прадстаўнік ад Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) Марцін Сайдзік і прадстаўнік ад Расіі Азамат Кульмухаметаў. Подпісы таксама паставілі Дзяніс Пушылін і Уладзіслаў Дэйнега — прадстаўнікі «ДНР» і «ЛНР».

Праз дзень пагадненне падпісалі лідары «ДНР» і «ЛНР» Аляксандр Захарчанка і Ігар Платніцкі.

Дакумент прадугледжвае, што адвод узбраенняў будзе праводзіцца ў два этапы: спачатку танкі і артылерыя, затым — мінамёты калібрам да 120 міліметраў. Першы этап, па словах прадстаўніка АБСЕ, пачнецца праз два дні пасля поўнага спынення агню і працягнецца 15 дзён. Другі этап працягнецца 24 дні. Адвод узбраенняў будзе кантраляваць АБСЕ.

Напярэдадні прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка заявіў, што ў выніку ўзброенага канфлікту ў Данбасе загінула восем тысяч чалавек, у тым ліку шэсць тысяч цывільных асоб.

**АГ**

## Масква спрабуе арганізаваць уласны Майдан у Малдове

**Пратэсты распачыналі праеўрапейскія сілы, а цяпер вуліцы ў цэнтры Кішынёва заблакавалі прарасійскія элементы.**

Адзін з арганізатараў акцый пратэсту ў Кішынёве, лідар прарасійскай «Нашай партыі» Рэната Вусаты, заявіў, што перакрыццё пратэстуючымі цэнтральнай вуліцы Кішынёва — гэта толькі першы пункт плана «Б», а ў далейшым Малдову чакаюць «вясёлыя дні і ночы».

«На бліжэйшыя два дні мы, цалкам легальна і мірна, перакрылі праспект Штэфана Вялікага. Хачу падкрэсліць, што гэта толькі першы пункт нашага «плана Б». Калі не будзе рэакцыі — а рэакцыя нас задавальняе толькі адна — адстаўка прэзідэнта Цімафці, — тады тое, што адбылося ноччу ў цэнтры сталіцы, можа адбыцца на працягу бліжэйшых дзён у розных раёнах горада. Могуць быць перакрытыя дарогі ў розных раёнах краіны», — заявіў Вусаты ў сваім выступе перад прысутнымі. Яго цытуюць інфармацыйныя агенцтвы.

Акцыю пратэсту ў скверы перад парламентам арганізавалі сацыялісты і «Наша партыя». Пасля яны паставілі намётавы гарадок на праезнай частцы цэнтральнай аўтамагістралі Кішынёва.

Раней грамадзянская платформа «Годнасць і праўда» паставіла свае намёты на цэнтральнай плошчы горада. Яны пратэставалі супраць карупцыі і патрабавалі поўнай перазагрузкі партыйнай сістэмы краіны.

**СГ**

# Мітрапаліта Паўла з Беларусі перавядуць у іншую епархію?

Такія **размовы ходзяць** у праваслаўнай царкве.

Пра гэта «Нашай Ніве» расказалі адразу некалькі крыніц. Аднак у інфармацыйным аддзеле БПЦ гэтыя словы абвяргаюць. «Гэта не чуткі, а нават плёткі», — сказаў Сяргей Лепін, старшыня сінадальнага інфармацыйнага аддзела царквы.

Мітрапаліт Разанскі Павел быў прызначаны кіраўніком беларускага праваслаўя ў 2013 годзе. Гэта выклікала неадназначную рэакцыю беларускіх вернікаў. У Беларусь прыслалі чалавека, які ніколі не жыў і не працаваў у нашай краіне, гэта было ўспрынята як дэманстрацыя падпарадкаванага становішча беларускага праваслаўя. Да таго ж стала вядома відэа, на якім ён заяўляе, што Расія ў выпадку ціску на яе можа адпомсціць, адкрыўшы «атамны кранік». У Беларусі, якая прыняла на сябе чарнобыльскую радыяцыю, гэткія словы ўспрымаюцца негатыўна.

Дзейнасць мітрапаліта Паўла ў Мінску выклікае часам незадаволенасць у супрацоўнікаў епархіі і святароў, якія звыклі да інтэлігентнага стылю мітрапаліта Філарэта.

Аляксандр Лукашэнка на Вялікдзень не прыехаў у галоўны праваслаўны сабор. Замест таго ён наведаў звычайны праваслаўны храм у Оршы.

Гавораць, у мітрапаліта Паўла не скláліся адносіны і з «духоўнікам» прэзідэнцкай сям'і, айцом Фёдарам Поўным — адзіным святаром, які суправаджаў Аляксандра Лукашэнку на гарналыжныя курорты і атрымаў палац у Драздах.

**Сяргей Гезгала, Улад Швядовіч**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Кіроўца маршруткі ў Брэсце ездзіць са сцягам «Наваросіі» і назваў пасажыра «ўродам»

У групу сацыяльнай сеткі «Укантакце» «Антымайдан Беларусь» звярнуўся кіроўца маршруткі «Брэст — Пелішча» Андрэй Цімашэўскі. Ён апісаў сітуацыю, што ў ягоным мікрааўтобусе на лабавым шкле размешчаны сцяг «Наваросіі».

«Адзін урод-змагар напісаў скаргу дырэктару аўтавакзала, дырэктар маёй фірмы павінен даць адказ гэтаму ўроду цягам 10 дзён. Мяне паставілі перад выбарам: ці зняць сцяг, ці даць юрыдычна абгрунтаваны адказ, бо з ім змагар пазней можа звярнуцца ў суд», — напісаў Андрэй Цімашэўскі.

Дырэктар Брэсцкага аўтавакзала Мікалай Радзюк пацвердзіў, што такая скарга сапраўды была. Яны перанакіравалі яе да прыватнага перавозчыка «ЮВКом», на якога працуе згаданы вадзіцель.

Дырэктар «ЮВКома» Юрый Кушнярук таксама прызнаў, што такая скарга існуе і ёсць такі вадзіцель Андрэй Цімашэўскі.

«Не бачу ніякіх праблем. Гэты ж сцяг амаль цалкам ідэнтычны Андрэеўскаму, — адразу сказаў дырэктар. — Але я сказаў, каб зняў, калі людзям не падабаецца».




«Беларусь не прызнае легітымнымі ўтварэнні на ўсходзе Украіны, Лукашэнка займае ў гэтым пытанні жорсткую пазіцыю, а як ставіцеся вы?» — спыталіся мы ў спадара Кушнерука. «Здымем, якія пытанні», — адказаў ён.

На ўдакладненне, як начальнік ставіцца да таго, што ягоныя супрацоўнікі называюць пасажыраў «уродамі», быў наступны адказ: «Я яшчэ гэтага не бачыў, будзем разбірацца».

Скаргу пакінуў жыхар Брэста Ігар Міхайлаў. «Улічваючы важнасць падтрымкі добрасуседскіх адносін між Беларуссю і Украінай, патрабую прыняць меры па выдаленні сцяга «Наваросіі» з указанага аўто, у адносінах да кіроўцы ўжыць меры дысцыплінарнага парадку», — напісаў Міхайлаў.

**Зміцер Панкавец**



## Пачатак тэлесерыяла аб захопе Нарвегіі Расіяй стаў самым папулярным у гісторыі нарвежскага ТБ

Першы эпізод тэлесерыяла «Акупаваныя» паглядзелі 53% жыхароў краіны ва ўзросце ад 20 да 49 гадоў. Паводле сюжэту серыяла, расійскія войскі захопліваюць нарвежскія нафтагазавыя радовішчы.

Расійскія дыпламаты ў Осла заявілі, што серыял з'яўляецца спробай напалохаць нарвежскага гледача ў традыцыях халоднай вайны.

Еўрапейскія краіны ўсвядомілі новую пагрозу з боку Расіі пасля таго, як Масква ў 2014 год анексавала Крым і паспрабавала захапіць Данбас.

Адзін з галоўных стваральнікаў тэлесерыяла — папулярны нарвежскі літаратар Ю Нэсбё.

**СГ**

## Былы палітвязень Малчанаў ваюе ў АТА

«**Я не мог спакойна сядзець**, калі Расія напала на Украіну».

27-гадовы Аляксандр Малчанаў днямі паведаміў у фэйсбуку, што з'ехаў ва Украіну. «Адправіцца за краты толькі за тое, што злёгку дапамагаў украінцам у барацьбе за тэрытарыяльную цэласнасць сваёй краіны ў мяне жадання няма — я дастаткова часу правёў у беларускіх турмах, зарабіў там кучу балячак», — напісаў Аляксандр.

Мы патэлефанавалі хлопцу ў Кіеў, каб ён распавёў пра сваё знаходжанне ў зоне АТА. «Я з'ехаў на фронт восенню мінулага года. Паехаў бы раней, калі адбылася акупацыя Крыма, але быў у Беларусі пад прэвентыўным наглядам».

«Мне ніколі не была абыякавай Украіна, — кажа Аляксандр. — Падабаюцца мясцовыя людзі, прырода, мне тут камфортна. Калі Расія напала на Украіну, то я не мог спакойна глядзець на гэта. Калі нешта падобнае не дай Бог здарыцца ў Беларусі, то я буду першым таксама бараніць нашу краіну».



Аляксандр не служыў у войску, таму шчыра прызнаецца, што час у вучэбцы аднаго з батальёнаў быў не самым простым. «Найперш фізічныя практыкаванні, ніякага ідэалагічнага маразму не было. На фронце прасцей. Па спецыяльнасці я стралок».

На дадзены момант Малчанаў знаходзіцца ў Кіеве, у зону АТА ён плануе вярнуцца праз два тыдні.

Аляксандр Малчанаў родам з Барысава, як і славутая снайперка Наталля Красоўская, што ваявала на баку баевікоў. «Не, я з ёй не сутыкаўся. Ні ў Барысаве, ні ў АТА. Забаўна было б яе тут сустрэць... У Барысаве ёсць далёкія знаёмыя, якія кажуць, што яна наркаманка».

У Беларусь вяртацца Аляксандр пакуль не плануе. «Кадэбэшнікі цікавіліся ў маіх знаёмых, сяброў, ці праўда, што я ў зоне АТА, хацелі прышыць мне «наёмніцтва», але доказаў не хапае». Апошні раз у Беларусі ён быў у маі.

Аляксандр Малчанаў быў тым, хто 19 снежня 2010 года сарваў чырвона-зялёны сцяг з будынка КДБ і усталяваў бел-чырвона-белы. Пазней ён быў асуджаны да трох гадоў зняволення, вызвалены ў верасні 2011 рашэннем Аляксандра Лукашэнкі.

Вядома, што на баку Украіны ваююць яшчэ два былыя беларускія палітвязні — Васіль Парфянкоў і Эдуард Лобаў.

**ЗП**

## Санкцыі ЕС у дачыненні да Юрыя Чыжа і яго актываў знятыя

Суд ЕС у Люксембургу 6 кастрычніка ануляваў санкцыі, уведзеныя ў 2012 годзе ў дачыненні да Юрыя Чыжа і двух яго актываў, кампаніі «Трайпл» і футбольнага клуба «Дынама». Як паведамляе *Euobserver*, Рада Еўропы не знайшла доказаў таго, што Чыж «фінансава падтрымлівае аўтарытарныя беларускія ўлады ў абмен на садзейнічанне яго бізнэсу».

Юрый Чыж займае першую пазіцыю ў рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых бізнэсменаў Беларусі паводле версіі «Ежедневника».

Раней, у ліпені, Еўрасаюз двойчы скарачаў чорны спіс беларускіх чыноўнікаў і юрыдычных асоб, вывеўшы з-пад санкцый 26 чалавек і чатыры кампаніі, якія належаць Чыжу.

З санкцыйных спісаў выкраслілі ў асноўным былых



чыноўнікаў, у тым ліку і тых, хто займаў высокія пасады: былую памочніцу прэзідэнта Наталлю Пяткевіч, экс-кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Генадзя Нявыгласа, былога старшыню савета рэспублікі Анатоля Рубінава, былога намесніка кіраўніка МУС Яўгена Полудня, экс-міністра па падатках і зборах Уладзіміра Палуяна, былога старшыню Федэрацыі прафсаюзаў Леаніда Козіка.

**Tut.by**

# Новым міністрам культуры стане Міхась Баразна?



**Святлова могуць прызначыць паслом у Малдове.**

Пасля прэзідэнцкіх выбараў урад Беларусі фармальна сыходзіць у адстаўку, але пасля многія чыноўнікі вяртаюцца на ранейшыя пасады.

Як стала вядома «Нашай Ніве» з крыніц у Міністэрстве культуры, гэтае ведамства атрымае новага кіраўніка. Цяперашні міністр культуры Барыс Святлоў нібыта ўзначаліць дыпламатычную місію ў Малдове.

Мяркуецца, новым міністрам стане Міхась Баразна **(на фота)**, цяперашні рэктар Акадэміі мастацтваў.

Міхаіл Баразна нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Ракушава Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1985 годзе скончыў мастацка-прамысловы факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. З 1986 па 1992 год — мастацкі рэдактар выдавецтва «Беларусь».

З 1992 года выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, у 1996–1998 — в.а. загадчыка кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў, з 1999 прарэктар, з 2010 года — рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў, дацэнт.

**ЯМ**

## Чыноўнік Мінкультуры: Фільм «Крэпасць» да паказу плануе «Кінавідэапракат» Мінгарвыканкама

«Наша Ніва» паведамляла, што ў Расіі знялі дзіцячы мульцік «Крэпасць». У ім паказваюцца падзеі аблогі Смаленска ў 1609—1611 гадах.

Акцэнты растаўленыя выразна: «добрыя» — гэта маскоўцы, а кепскія — войска Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам Жыгімонта ІІІ Вазы. Войскі Рэчы Паспалітай у мульціку называюцца «падступнымі палякамі», якія прагнуць захапіць «Русь».

Вядома таксама, што «Крэпасць» мяркуецца да паказу і ў Беларусі. Хоць Рэч Паспалітая была дзяржавай палякаў, беларусаў і літоўцаў, і нашы продкі ваявалі за тое, каб Смаленск застаўся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага.

Ці месца такому мульціку на нашых экранах?

«Наша Ніва» патэлефанавала ў Міністэрства культуры, каб спытаць іх меркаванне. Мы пагутарылі з галоўным спецыялістам упраўлення па кінематаграфіі Міністэрства культуры Міхаілам Драздовым.

**«НН»: Міхал Аляксеевіч, ці не здаецца Вам, што гэты мульцік не варта паказваць у Беларусі? Усё ж нашым дзецям прапануюць глядзець, як гінуць іх «падступныя» продкі...**

**Міхаіл Драздоў:** У інтэрнэце ўсялякае пішуць. Калі ён да нас прыйдзе, калі мы паглядзім... Увогуле, кожны аўтар мае права на сваю пазіцыю.

**«НН»: А такая пазіцыя не падаецца Вам недапушчальнай з пункту гледжання беларусаў?**

**Міхаіл Драздоў:** Яго глядзець трэба. Вось бывае так, што выходзіць фільм 14+, яго яшчэ нідзе не бачылі, а грамадзяне ўжо пішуць, што там парнаграфія дзіцячая можа быць. Людзі пільныя ў нас. І мы па факце пруцуем. Калі там не будзе нічога такога, то хай ідзе.

**«НН»: Мульцік, у якім забіваюць нашых продкаў, — гэта нічога такога?**

**Міхаіл Драздоў:** Продкаў забіваюць... У інтэрнэце ўсё што папала пішуць. Іншы раз чытаю... Мо ён не зняты яшчэ.

**«НН»: Вы далі дабро на паказ?**

**Міхаіл Драздоў:** Ну як я даў дабро? Я не бачыў яшчэ фільма, дакументаў. Мне вось кінапракат даў спіс планаваных да паказу фільмаў, мо яны самі яго яшчэ не бачылі.

**«НН»: У вас ёсць паўнамоцтвы спыніць паказ?**

**Міхаіл Драздоў:** Няма ў нас. Мы можам толькі забараніць фільм, калі там заклікі да зрынання існуючага ладу...

**«НН»: А беларусафобства — гэта не прычына?**

**Міхаіл Драздоў:** Ну, калі там будзе расчляненне трупаў, разумееце? Яшчэ гэта можа быць рэспубліканская экспертная камісія па прадухіленні гвалту і жорсткасці. Калі ёсць такія сцэны, то яна можа не раіць гэты фільм да паказу ў кіно.

**«НН»: Ёсць трэйлер і сюжэт. Давайце Вы іх паглядзіце, і я вам праз 10 хвілін набяру? Пасля 29 кастрычніка будзе позна.**

**Міхаіл Драздоў:** Не буду я глядзець, у мяне на гэта часу няма. Ды ў мяне яшчэ і дакументаў няма. Мне далі толькі такі накід, што гэты фільм плануецца да паказу. Вось, я гляджу — 29 кастрычніка. Мо яго яшчэ здымуць з пракату. І ўвогуле, гэта не да мяне, я дробны чыноўнік, які дзейнічае на падставе дамоваў, дзяржаўнага пракатнага пасведчання. Калі ў вас ёсць засцярогі, то пішыце на імя міністра.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Славуты фізік Стывен Хокінг адмаўляе існаванне Бога, але верыць у іншапланетнікаў

У інтэрв'ю іспанскай газеце *El Pais* вядомы фізік-тэарэтык Стывен Хокінг заявіў, што Бога няма, навука здольная растлумачыць усе працэсы, што адбываюцца ў прыродзе, а штучны інтэлект можа перасягнуць чалавечы ўжо праз 100 гадоў.

Хокінг заявіў: «Я выкарыстоўваю слова «Бог», але толькі ў адцягненым сэнсе, гэтак жа як Эйнштэйн, калі казаў пра законы прыроды. Навукі дастаткова для таго, каб растлумачыць узнікненне свету, і няма неабходнасці блытаць сюды Бога».

Аднак існаванне іншапланетнікаў фізік, як вынікае з яго слоў, не выключае. «Магчыма, іншапланецяне стануць захопнікамі і будуць каланізаваць усе планеты, да якіх змогуць дабрацца. Маё матэматычнае мысленне кажа пра тое, што разлікі і лічбы цалкам дазваляюць думаць аб іншапланецянах як рэальна існуючых стварэннях. Сапраўдны выклік для нас — гэта зразумець, як яны ўсё-такі могуць выглядаць».

Фізік-тэарэтык папярэдзіў і пра тое, што ў хуткай будучыні чалавецтву прыйдзецца сур'ёзна падумаць пра пагрозу з боку камп'ютараў. Як заявіў Хокінг, праз 100 гадоў штучны інтэлект можа па некаторых параметрах перасягнуць чалавечы, і тады людзям прыйдзецца пераканацца ў тым, што ў машын тыя ж мэты, што і ў нас. «Я думаю, што выжыванне чалавечай расы залежыць ад таго, ці зможам мы знайсці новы дом дзе-небудзь на прасторах Сусвету, бо рызыка, што Зямля будзе знішчана якойнебудзь катастрофай, паступова ўзрастае. Менавіта таму я хачу, каб усе людзі зразумелі важнасць касмічных даследаванняў», — сказаў на заканчэнне Хокінг.



**ЛМ**



## У жаночай зборнай Ірана восем гульцоў аказаліся мужчынамі

Усе яны чакаюць аперацыі па змене полу. Афіцыйны прадстаўнік футбольнай лігі Ірана пацвердзіў гэтую інфармацыю.

Мадтабі Шарыфі паведаміў, што некаторыя з гульцоў жаночай зборнай раней гулялі ў мужчынскім чэмпіянаце. Адзначым, што гэта не першы інцыдэнт. Раней падобныя выпадкі былі зафіксаваныя ў 2010-м і 2014-м годзе. Тады мужчынамі аказаліся чатыры гульцы жаночай зборнай.

Футбольныя ўлады Ірана маюць намер праверыць палавую прыналежнасць усёй жаночай зборнай, а таксама вядучых гульцоў нацыянальнага першынства.

**АГ**

## У Баранавічах паставілі помнік Феліксу Дзяржынскаму

**Бюст перанеслі з Баранавіцкага раёна на тэрыторыю гарадскога ўпраўлення КДБ.**

Адзіны бюст заснавальніка і кіраўніка ВЧК у Баранавіцкім раёне стаяў ад 1977 года ў вёсцы Мілавіды каля будынка праўлення калгаса. Некалькі гадоў таму калгас быў расфармаваны, а ў будынку размясціліся іншыя арганізацыі.

— Згодна з рашэннем мясцовых органаў улады, бюст перанесены на тэрыторыю гарадскога ўпраўлення КДБ, — растлумачыў начальнік Баранавіцкага гарадскога аддзела ўпраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці Дзмітрый Навіцкі. — Гэта будзе другое жыццё помніка.

У верасні помнік быў усталяваны на пастамент ля ўваходу ў будынак раённага ўпраўлення Камітэта дзяржбяспекі.

**Intex-press.by**

## Галыгін «прыпячатаў» Меркель на НТВ



Артыст з Масквы беларускага паходжання Вадзім Галыгін стаў вясці «гумарыстычную» перадачу на адыёзным НТВ. Завецца яна «Час Г» і будзе выходзіць вечарам у суботу.

Адна з «хохмаў» у апошнім выпуску была прысвечана «ядзерналу рыдыкюльчыку» канцлера Германіі Ангелы Меркель. На НТВ праграма Галыгіна анансуецца пад слоганам «Куды коціцца гэты свет — Галыгін разбярэцца».

**АГ**

# Расійская журналістка Латыніна абураецца, што ў школах Комі вывучаюць мясцовую мову

Вядомая журналістка і пісьменніца Юлія Латыніна ў сваёй перадачы на «Эхо Москвы» закранула тэму Рэспублікі Комі, якая ўваходзіць у склад Расіі. Прычынай для гэтага быў арышт былога кіраўніка Комі Вячаслава Гайзера, якога абвінавачваюць у адмыванні грошай.

Напрыканцы праграмы Латыніна здзівілася, што, аказваецца, у школах Рэспублікі Комі вывучаецца мова комі. «Мяне гэта ўзрушыла», — прызнаецца Латыніна.

«У школах Рэспублікі Комі ўкаранялася навучанне вучняў комі мове, што, натуральна, выклікала незадаволенасць бацькоў. Насамрэч гэтая гісторыя мяне абсалютна ўразіла, таму што ну вось, у нас Уладзімір Уладзіміравіч тыпу адстойвае інтарэсы рускіх. Адна з рэчаў, пра якія, адстойваючы інтарэсы рускіх, варта падумаць — гэта тое, што савецкае фальшывае дзяленне на рэспублікі замест ранейшых губерняў стварае патэнцыял наступнага распаду краіны.

Калі ў Рэспубліцы Комі пачынаеце расказваць, што там у асноўным жывуць не рускія, а жывуць комі, ды яшчэ вучыць мову — цалкам безадносна да Гайзера — гэта такая дурасць, якой проста не чакаеш ад людзей, якія так скандэнтраваныя на інтарэсах абароны рускіх».

Мова комі адносіцца да фінавугорскіх. На ёй размаўляюць у Комі, Пермскім краі, Кіраўскай вобласці. Паводле перапісу 2010 года, каля 220 тысяч чалавек з'яўляюцца носьбітамі мовы комі. На ёй выходзіць некалькі газет, часопісаў, інтэрнэт-сайтаў. Газета «Комі му» мае наклад у межах 7 тысяч асобнікаў.

Варта адзначыць, што ў 2011 годзе Міністэрства адукацыі Комі ўвяло абавязковае вывучэнне мовы комі з першага класа. Прычым гэта тычыцца не толькі карэннага насельніцтва рэгіёна. Школы маглі выбіраць форму навучання мове — як «роднай» (да 5 урокаў на тыдзень) і як «дзяржаўнай» (2 урокі).

Паводле звестак 2011 года, у Расіі ёсць 80 дзіцячых садкоў, дзе выхаванне вядзецца на мове комі. А вось школы, дзе асноўнай мовай навучання была б комі, няма ніводнай.

Варта нагадаць, што ў разгар чарговага беларуска-расійскага газавага канфлікту Юлія Латыніна заклікала ўвесці ў Беларусь расійскія войскі.

**Зміцер Панкавец**





## У Мінску прэзентавалі калекцыю адзення з нацыянальным каларытам

30 верасня ў Мінску, у межах 37-й выставы «БелТЭКСлегпрам. Восень-2015», прайшоў паказ беларускага адзення. Навінкі сезона прэзентавалі «Камінтэрн», Цэнтр моды, «Палессе», «Купалінка», «Белмастацпромыслы» і іншыя прадпрыемствы. Нацыянальны ўзор па-ранейшаму ў трэндзе.

Паводле слоў прадстаўніка кампаніі «Палессе», трыкатажныя сукенкі з нацыянальным узорам з'явіцца ў продажы ў пачатку наступнага года. Аптовая цана — 120 тысяч рублёў, рознічная — 250 тысяч. «Але бліжэй да студзеня сітуацыя на рынку можа памяняцца, — гаворыць прадстаўнік прадпрыемства. — Гэта разлік на сёння».

**БелаПАН**

## Запрацаваў першы ў Беларусі KFC

У Мінску на выхадзе з метро «Каменная Горка» адкрыўся першы рэстаран хуткага харчавання — KFC. Адрозненнем KFC ад іншых рэстаранаў хуткага харчавання з'яўляецца прысутнасць у іх прадуктах курынага філе і вялікія порцыі курыных ножак і крыл.

Абслугоўваюць у KFC вельмі хутка. За кожным кліентам ёсць нумар. Калі замова гатова, клічуць праз гучную сувязь. Адзін кавалак курыцы каштуе 15 000 рублёў. На кампанію лепей браць так званае вядро. Курыца проста ў кляры, не вострая, але годная.

**Мікіта Недаверкаў**




## Беларускі абаронца падпісаў кантракт з клубам НХЛ



Алег Явенка гуляў на чэмпіянаце свету — 2015 у Чэхіі, там на яго і звярнулі ўвагу заакіянскія скаўты.

«Каламбус» падпісаў кантракт з беларускім абаронцам Алегам Явенкам, паведамляе афіцыйны сайт клуба. Двухбаковае пагадненне разлічана на адзін год.

«Алег старанна працаваў як на лёдзе, так і па-за ім, і выдатна праявіў сябе на двух турнірах пачаткоўцаў, а таксама ў нашым трэніровачным лагеры. Ён зарабіў гэты кантракт, і мы чакаем, што ён будзе развіваць сваю гульню на працягу будучага сезону», — сказаў генеральны менеджар клуба Ярма Кекялайнен.

Сезон у НХЛ стартуе праз тыдзень, «Каламбус Блу Джэкетс» стартуе гульнёй супраць «Нью-Ёрк Рэйнджэрс».

Таксама з беларусаў у сезоне возьмуць удзел нападаючы Міхаіл Грабоўскі, які гуляе за «Нью-Ёрк Айлендэрс», і, найхутчэй, Раман Грабарэнка, які гуляе ў фарме «Нью-Джэрсі Дэвілс».

**ЗП**

## Шварцэнегер заявіў, што хоча прыехаць у Беларусь

Адбылося гэта пасля таго, як ён сустрэўся з беларускай цяжкаатлеткай у майцы «Моцны прэзідэнт моцнай краіны».

25—27 верасня ў Мадрыдзе праходзіў традыцыйны спартыўны фестываль «Арнольд Класік Еўропа — 2015», на якім выступала юная беларуская спартсменка Аляксандра Бурыкіна.

16-гадовая мінчучка выступала на памосце з наймацнейшымі спартсменкамі свету, адной з якіх была Кімберлі Уолфард з ЗША — сёння яна № 1 у жаночым паўэрліфтынгу. І хоць Аляксандры не ўдалося трапіць у тройку прызёраў, пры гэтым яна ўстанавіла два рэкорды Еўропы ў вагавой катэгорыі да 63 кг сярод дзяўчат — у прысяданні (135 кг) і ў суме трохбор'я (347,5 кг).

На ўзнагароджанне Аляксандра Бурыкіна выйшла ў майцы з выявай Аляксандра Лукашэнкі і надпісам на англійскай — «Моцны прэзідэнт моцнай краіны».



27 верасня да паўэрліфтараў прыйшоў з прывітаннем сам Арнольд Шварцэнегер. Арнольд паціснуў Аляксандры руку і пажадаў далейшых поспехаў у спорце.

Юная беларуска ў адказ падаравала Шварцэнегеру памятную футболку з выявай Аляксандра Лукашэнкі. На што Арнольд адказаў, што ведае Аляксандра Лукашэнку як моцнага палітыка і прэзідэнта і што наогул беларусы — вельмі моцныя людзі. І дадаў, што ў будучыні хацеў бы наведаць Беларусь.

**Tut.by**

Кіно

## Блізнюкі-садысты

Легенда
**Жанр:** крымінал, трылер, драма
**Рэжысёр:** Браян Хэлгеленд
**У ролях:** Том Хардзі, Пол Андэрсан, Крыстафер Эклстан, Джошуа Хіл, Эмілі Браўнінг, Колін Морган, Тара Фітцджэральд, Нікалас Фарэл
Вялікабрытанія, Францыя, 131 хв.
**Адзнака:** 7

Фільм расказвае гісторыю блізнюкоў Рэджынальда і Рональда Крэяў, культавых фігур злачыннага свету Вялікабрытаніі 1960-х, ад пачатку іх кар'еры да зняволення ў 1969. Аповед вядзецца ад асобы жонкі Рэджы Фрэнсіс. Браты ўзначальвалі самую ўплывовую бандыцкую групоўку Іст-Энда і адзначыліся выключнай жорсткасцю і неўраўнаважанасцю. Ім прыпісваюць узброеныя рабаванні, рэкет, падпалы, забойствы, а таксама яны былі ўласнікамі начных клубаў, якія наведвалі нават галівудскія знакамітасці. Сярод іх ахвяр — крымінальныя аўтарытэты Джэк МакВіці і Джордж Корнэл.

Сюжэт заснаваны на кнізе «Мастацтва гвалту: Узлёт і падзенне блізнят Крэй» Джона Пірсана. Рэжысёрам і аўтарам сцэнара выступіў амерыканец Браян Хэлгеленд, які ў 1998-м атрымаў «Оскар» за найлепшы адаптаваны сцэнар да «Сакрэтаў Лос-Анджэлеса». Галоўную ролю атрымаў брытанец Том Хардзі («Шалёны Макс», 2015), паказаўшы ўсё сваё акцёрскае майстэрства ў вобразах хворага Рональда, маньяка-садыста, і больш чулага і разумнага Рэджы. Дуэт яму склала аўстралійка Эмілі Браўнінг («Забароненыя прыёмы», 2011).

Здымкі праходзілі ў Лондане. Дэкарацыяй да стужкі сталі некалькі легендарных пабаў.

«Легенда» пабіла рэкорды бокс-офісаў гэтага сезону. Упершыню ў гісторыі брытанскага кінапракату фільм сабраў беспрэцэдэнтныя для верасня 8 мільёнаў даляраў і ўвайшоў у топ-ліст самых касавых фільмаў Вялікабрытаніі.




Стужка будзе цікавая аматарам экранізацый крымінальных гісторый, заснаваных на рэальных падзеях. Англійскі каларыт, на жаль, тут складаюць толькі лонданскія гарадскія пейзажы. А вось вытанчанага гвалту тут шмат.

**Настасся Уласава**

# «Ветэран пацалаваў кавун, а я хачу пацалаваць зямлю, на якой вырас гэты кавун»

Годнасць у нас цяпер толькі адна, першачарговая: як годна размеркаваць 100% галасоў электарату на 4-х кандыдатыаў, каб было ўсё па справядлівасці, не горш, чым у людзей.

А ў людзей працэнт такі: любімаму правадыру 94% (гэта ў брацкім Казахстане).

Нам нельга прапусціць у лідары кагосьці, у чымсьці, дзе-небудзь, калі-небудзь, нават цяпер, калі ва ўсіх усё расквітнела пышным цветам.

Дык вось, 94% — гэта паказчык любові і даверу ўдзячных беларусаў за ўсё, што зроблена і што будзе зроблена для шчасця, міру і спакою.

Астатнія 6% дзеляцца на прэтэндэнтаў: 4% — Караткевіч, якая падабаецца Ярмошынай па кандыдацкіх якасцях, уменні варыць капусту і баршчы, накарміўшы імі выбаршчыкаў 1 раз на 5 год.

Па 1% Улаховічу і Гайдукевічу, якіх, як аказалася, ведае па 100 тысяч насельніцтва.

Яны будуць рады і ўдзячныя ўсім, асабліва таму, самі ведаеце каму. А ва ўсіх — такая эйфарыя, такі душэўны пад'ём, што вершы льюцца на паперу:

Вас народ благославляет,
Вам судьбу свою вручает!
Вся страна сил полна —
Выбор сделала она!

Трэба ісці далей! Ветэран пацалаваў кавун, прывезены Колем Лукашэнкам, а я хачу пацалаваць зямлю, на якой вырас гэты кавун. Але не дазволяць: не прапусціць ахова звычайных грамадзян. Не заслужылі!

**Таццяна Карэліна, Мінск**

Неабыякава

# Замнога вянкоў!

У нас беражліва ставяцца да памяці пра абаронцаў Айчыны, ветэранаў. І гэта добра.

Пачынаючы з 23 лютага ідуць да помнікаў людзі, каб засведчыць сваю любоў да герояў. У Гродне, у парку адпачынку, стаіць прывабны помнік воіну-вызваліцелю ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У галоўнае свята — Дзень Перамогі — сюды прыходзіць шмат людзей. Нясуць вянкі і кветкі. Але іх столькі, што абкладаюць помнік вялікай гурбай.

Сёлета рытуал паўтарыўся і 22 чэрвеня — адзначалі пачатак вайны. Потым было свята — Дзень незалежнасці, і закончылі 16 ліпеня — днём вызвалення горада. І кожны раз вянкоў было безліч (50—60 штук), толькі і паспявалі пасля мерапрыемстваў іх адвозіць на сметнік.

Робіцца гэта як пад капірку, хіба па разнарадцы гарвыканкама, а вянкі і кошыкі са штучнымі кветкамі купляюцца за прафсаюзныя (нашы з вамі) грошы. Трошкі ўсё пафасна і бездухоўна.

Але ж у нас, беларусаў, няма такой традыцыі, каб прыходзіць на могілкі да гадавіны з вянкамі, а толькі з кветкамі.

Гэта таксама датычыцца і сусветнай культурнай традыцыі шанавання герояў. Менш вянкоў — больш жывых кветак.

**Аляксей Буцько, Гродна**



У чужым воку

**Больш чым тысяча Ісламскіх дзяржаў**

«Баевікі знішчылі ў Пальміры Трыумфальную арку...» Яны, вядома, паскуды, тыя баевікі. Але чаму ў нас ніколі не згадаюць, што Сталін знішчыў і помнікаў, і людзей больш, чым тысяча Ісламскіх дзяржаў разам узятых?

**Ігар Шчасновіч, Баранавічы**

**Стаў вядомы адрас Кірылы Сілівончыка ў калоніі**

Да ўвагі ўсіх, хто пытаў адрас для ліставання Кірылу Сілівончыку: Россия, 606640, Нижегородская область, Семеновский район, п. Сухобезводное, УКП при ФКУ ИК-14.

Пісаць трэба па-расейску, бо турэмная цэнзура не прапускае лісты на іншай мове.

Нагадаем, што беларуса-камп'ютарніка Кірылу Сілівончыка, які працаваў у Расіі на вайсковым заводзе, асудзілі за тое, што ён не прачытаўшы перапосціў паведамленне «Укантакце», што ўтрымлівала антырасійскія заклікі.

Сілівончык актыўна падтрымліваў праўкраінскія суполкі ў сацыяльных сетках. Родам ён з Гомельскай вобласці, працаваў у Ніжнім Ноўгарадзе, бо не знайшоў работы на радзіме.

водгук

# Дзякуй Віктару Марціновічу

Прачытаў артыкул Віктара Марціновіча «Краіна, што жыве ў сёння» («НН», № 35) і ўсцешыўся. Урэшце, нехта зразумеў і напісаў пра тое, што ніяк не даходзіць да нашых грамадскіх дзеячаў і палітыкаў.

Беларусь жыве «сёння», і так жыла. Гэтыя леніны, марксы, энгельсы і валадарскія ў цэнтры сталіцы, яны не ад любові да марксізму-ленінізму ці камунізму. Гэта абсалютная абыякавасць. Абыякавасць да ўсяго, што не «сёння», а гэтае "сёння" не звязана з мінулым і будучыняй. Такую масу можа фарміраваць хто заўгодна і колькі заўгодна, калі ў ёй не пераважыць «учора, сёння і заўтра» разам. Каб так не здаралася, пра гэта клапоцяцца пэўныя дзядзькі. Вялікая тэма.

**Ежы Вашкевіч, wp.pl**

Меркаванні

# Рубінаў як люстэрка беларускай эвалюцыі

Піша Алесь Пашкевіч.



Неадназначнае ўражанне засталося ў мяне ад надрукаванага ў «Советской Белоруссіі» артыкула «Граждане, послушайте меня!» акадэміка, былога старшыні савета рэспублікі Анатоля Рубінава. Мабыць, я яго і не чытаў бы ўвогуле — з Рубінавым, здаецца, усё зразумела. Але так склалася, што некалі, калі байнэт пацяшаўся цытатамі з ягоных вершаў, я пры нагодзе таксама ў тых зборнікі зазірнуў адным вокам — і доўга не змог адарвацца.

Натуральна, не мастацкія вартасці мяне прывабілі, а сама скіраванасць тых вершаў. Як сапраўдны графаман, Рубінаў стварaў свае творы ў стылі «што бачу — пра тое пішу», і таму з іх у сукупнасці (а аўтар, падобна, у зборнікі ўключаў абсалютна ўсё, што хоць некалі з ягонай душы вырвалася) выразна праступае светапогляд асобы, якая на той час займала адну з фармальна найвышэйшых пасад у беларускай дзяржаве.

Дык вось — з вершаў адназначна вынікала, што Беларусі як радзімы для аўтара ўсе 1990-я і палову 2000-х, фактычна, не існавала. Ён увесь час дэманстраваў у вершах палкі, часам нават пафасны, патрыятызм, але гэты патрыятызм быў не беларускі і нават не «заходнярускі». Аб'ектам клопату і трывог для Анатоля Рубінава была толькі будучыня Расіі, а пра тое, што сам ён меў пашпарт іншай дзяржавы, аўтар свядома ці несвядома забываўся. Так, адразу пасля набыцця незалежнасці Беларусі, у 1992 г., ён пісаў патрыятычныя вершы пад красамоўнымі назвамі «Моя Россия» і «Дорогая Россия моя...».

У вядомым творы «Ох, народ ты наш, народ!..» (які праславіўся цытатай пра «туалетище»), напісаным у 1994 годзе, маецца на ўвазе зусім не беларускі народ (як можна падумаць з урыўка, які шырока цытаваўся ў прэсе), а толькі расійскі.

У напісаным у тым самым годзе вершы «Чтоб жила страна!» пад «страной» маецца на ўвазе зноў-такі Расія, а не Беларусь.

У 1995 г. у Анатоля Рубінава з душы вырваўся верш пад красамоўнай назвай «Продателям России».

Урэшце, у пачатку верша «Прогулка по Москве» (1997) Рубінаў хоць усклікаў «Москва, Москва! Столица, но не наша, и Родины — теперь уж не моей...», але ў канцы сцвярджаў, што «Москва, Москва! Всегда ты БУДЕШЬ нашей, столицей будешь Родины моей...». І такія прыклады можна доўжыць бясконца.

Нешта такое, дзе Беларусь згадвалася ўжо як радзіма, стала праскокваць толькі ў другой палове 2000-х, калі Рубінаў паступіў на дзяржаўную службу.

Дык вось, калі параўноўваць з усім гэтым, то ідэі, выказаныя ў сённяшнім опусе, для аўтара — вялікі прагрэс, паколькі для яго прынамсі «сегодня на кону стоит вопрос о сохранении Беларуси как суверенного государства нашего народа, как самостоятельной нации».

**Сам доўгатэрміновы факт нашай дзяржаўнасці, якая б яна ні была, і тым больш асабістая далучанасць да кіравання гэтай дзяржавай, уплывае на светапогляд нават самых закаранелых рэтраградаў**

Мабыць, гадоў яшчэ з дзясятак таму, не кажучы пра ранейшыя часы, ён сам нават уявіць не мог, што будзе некалі так пісаць. Усё ж такі сам доўгатэрміновы факт наяўнасці асобнай дзяржаўнасці, якая б яна ні была, і тым больш асабістая далучанасць да кіравання гэтай дзяржавай, пэўным чынам уплывае на светапогляд нават самых закаранелых рэтраградаў. Іншая справа, што ўсё ж такі не да такой ступені, каб погляды ў цэлым перасталі быць адыёзнымі.

**Алесь Пашкевіч, Facebook.com**

**Прыватныя абвесткі**

**Праца ў кнігарні «логвінаЎ»**

Прадаўцы ў кнігарні «ЛогвінаЎ» працуюць за сталом Адамовіча, а таваразнаўцы — за сталом Караткевіча. Гэтыя месцы цяпер вольныя. Свае рэзюмэ і пытанні дасылайце на адрас jc@lohvinau.by

**Клуб традыцыйнага мужынскага спеву «Дунай»**

Шаноўныя мужыкі! Распачынае новы сезон клуб традыцыйнага мужынскага спеву «Дунай». Сярод іншага, ужо чацвёрты год запар мы набіраем групу пачаткоўцаў — мужыкоў любых гадоў і прафесіі, якія хочуць паспрабаваць навучыцца спяваць народныя песні. Таму запрашаем!

Заняткі будуць праходзіць, хутчэй за ўсё, у панядзелкі. Заяўкі дасылайце на е-мэйл cymus1@gmail.com

**Віншуем!**



Віншуем Алену і Дзяніса Марціновічаў з узяццем шлюбу. Райцеся і мілуйцеся! Сябры

# Афганістан: становіцца гарачэй

Піша Анатоль Сідарэвіч.



З Афганістана прыйшла вестка, што талібы на некалькі дзён захапілі горад Кундуз, які з'яўляецца адміністрацыйным цэнтрам аднайменнай правінцыі. Гэтая правінцыя мяжуе з Таджыкістанам. У 1920-х яна была базай для антысавецкага збройнага супраціву ў Сярэдняй Азіі («басмачоў»), у 1990-х — апорай для ісламскай апазіцыі ў Таджыкістане.

Улады Афганістана накіравалі ўрадавыя войскі, каб ачысціць горад і правінцыю ад радыкальных ісламістаў.

Калі талібам удасца вярнуць сабе ўладу, у таджыкістанскага дэспата Рахмона, узбекскага тырана Карымава, а разам з імі і ў Пуціна ўзнікнуць новыя праблемы.

Будзем спадзявацца, што нават калі там, у далёкай ад нас старане, зноў успыхне вайна, саюзнік Масквы — афіцыйны Менск — не ўцягне ў гэтую крывавую калатнечу беларусаў.

**Анатоль Сідарэвіч**

# «Я нешчаслівая. Гэтага мне досыць»

15-гадовая ліцэістка скончыла жыццё самагубствам.

З кастрычніка ў Мінску на праспекце Незалежнасці 15-гадовая вучаніца ліцэя БДУ выкінулася з балкона 12-га паверха. Наверсе яна акуратна склала абутак і сумку.

Дзяўчына пакінула свой перадсмяротны ліст на ўласнай старонцы «Укантакце». Допіс на беларускай мове быў апублікаваны загадзя.

«Людзі, бывае, паміраюць/гінуць/забіваюцца. Мне проста цяжка жыць у гэтай сістэме сябе. Я ведаю, што яна парушыцца. Не сёння, дык заўтра, праз тыдзень, месяц, тысячагоддзе. Калі Вы не ўпэўнены, што можаце даць дзіцёнку адэкватныя ўмовы жыцця, то зрабіце аборт. Я радая, што сыходжу зараз. Я не настолькі старая. Старая, канечне. Але ж мне не 80, што вельмі добра. Я шмат чаго не паспела, але хіба можна ў жыцці ўсё паспець? Недасказанасць — яго сутнасць. Смерць — вельмі важная рэч. Я не хачу прыдумляць або разумець прычыну. Я нешчаслівая. Гэтага мне дастаткова. Вы не зможаце любіць мяне вечна, родныя мае людзі. Так што я буду шукаць шчасце ў імгненні. Я палячу скрозь усю вашую любоў. Бо адзіная абсалютная ўзаемнасць у мяне ў саманянавісці.

Я прашу вас любіць адно аднога і не хаваць гэтай любові. Не давайце людзям гінуць. І хай банальна, але жывіце цяпер у два разы болей. Кожны, жыві маё жыццё!

Я люблю. Я кахаю. Я ненавіджу. Мне гэтага хопіць.

Калі гэта магчыма, я буду прыходзіць да вас у снах, бо столькі хочацца сказаць. Бывайце.

Прабачце, калі ласка», — гаворыцца ў апошнім паведамленні дзяўчыны.

А ў статусе яна папрасіла: «Кідайце мне што-небудзь на сцяну жалобнае».

По інфармацыі «Еўрарадыё», бацька Дар'і не выхоўваў. Яе маці — доктар-анколаг і шмат працуе, дзяўчынка выхоўвалася ў вялікай ступені бабуляй і дзядулем. Прытым дзядуля сам нібыта мае сур'ёзныя праблемы са здароўем. Высветлілася, што праблемы былі ў Дашы яшчэ ў папярэдняй школе — знайшліся і такія падлеткі, якія сцвярджаюць, што і раней у дзяўчынкі была спроба пайсці з жыцця, але яе спынілі сябар.

Сама Дар'я, мяркуючы па фота, жыла ў добрых бытавых умовах і не аднойчы адпачывала за мяжой. Тым не менш ад бяды гэта не ўратавала.



Як адбылася трагедыя, невядома. Відавочцы пачулі гучны хлапок і пабачылі цела дзяўчыны на зямлі. Далей на месца прыехала міліцыя, якая ўжо не дапускала мінакоў.

У ліцэі не змаглі пракаментаваць, што стала прычынай самагубства, патлумачыўшы гэта тым, што дзяўчынка вучылася там толькі месяц.

**Улад Швядовіч**

## ДАІ шукае кіроўцу, які насмерць збіў пешахода

Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці шукае кіроўцу аўтамабіля, які познім вечарам 2 кастрычніка насмерць збіў пешахода на дарозе Сухарукія — Глебкавічы Мінскага раёна.

Інцыдэнт адбыўся на другім кіламетры гэтай аўтадарогі каля 21:20. Нявызначаны аўтамабіль наехаў на мужчыну, у выніку чаго пешаход памёр на месцы здарэння, а кіроўца ўцёк.

У наездзе падазраецца кіроўца аўтамабіля «Субару Імпрэза», арыенціровачна 2007—2011 гадоў выпуску, сіняга або цёмна-сіняга колеру. Пасля ДТЗ у машыны могуць быць пашкоджаны лабавое шкло, фары, капот, пярэднія крылы, бампер.

ДАІ просіць відавочцаў здарэння звяртацца з інфармацыяй у дзяжурную частку УДАІ УУС Мінаблвыканкама праз тэл.: 204-42-44, 229-04-44 або 102.

## У смерці школьніка звінавацілі настаўнікаў

Упраўленне Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці скончыла расследаванне крымінальнай справы аб гібелі 7-гадовай дзяўчынкі, якая ўтапілася ў кобрынскім аквапарку ў чэрвені.

За вучнямі былі замацаваныя дзве настаўніцы з разліку па адным дарослым на групу з 10 дзяцей. Аднак у аквапарку педагогі накіраваліся на водныя працэдуры пад гідрамасажорамі. Затым адна з іх — адказная за арганізацыю экскурсіі — прайшла міма патанулай другакласніцы ў джакузі, а іншая адправілася на атракцыён.

Следчыя высветлілі, што загінулая дзяўчынка не менш за 12 хвілін знаходзілася пад вадой, пакуль яе не заўважыў адзін з наведвальнікаў. Мужчына выцягнуў дзіця, але тая ўжо знаходзілася ў стане клінічнай смерці. Праз закрыццё дыхальных шляхоў вадой у пацярпелай развілася механічная асфіксія, з-за чаго яна памерла ў бальніцы амаль праз два тыдні.

У адносінах да настаўнікаў школы, якія суправаджалі дзяцей, заведзеная крымінальная справа. Ім можа пагражаць да 4 гадоў пазбаўлення волі.

**УШ**

## У Гомелі асудзілі масквіча-забойцу

У Гомелі да 15 гадоў пазбаўлення волі прыгавораны 57-гадовы масквіч.

Забойства здарылася ў снежні 2014 года. Ратавальнікі, якія прыбылі па выкліку на пажар, знайшлі ў згарэлым гаражы труп мясцовага жыхара. Пасля следчыя знайшлі ў гаражы нож са слядамі крыві. Па падазрэнні ў забойстве быў затрыманы грамадзянін Расіі.

Высветлілася, што сямейная пара масквічоў вырашыла адрамантаваць свой уседарожнік «Міцубісі-Паджэра» ў Петрыкаве ў сваякоў жонкі загінулага. Джып размясцілі ў гаражы знаёмага, а праз некалькі месяцаў масквіч прыехаў у Петрыкаў разам са сваім знаёмым, каб заняцца рамонтам. 9 снежня мужчыны выпілі і пасварыліся. Сварка завяршылася бойкай і панажоўшчынай.

**УШ**

## «Напрадавала» кватэр на мільярд рублёў

У Гродне 63-гадовая махлярка зарабіла больш за 1 мільярд рублёў на продажы жылля, якое ёй не належала. Цяпер следчыя шукаюць пацярпелых ад злачыннай дзейнасці гэтай жанчыны.



З 2014 года Людміла Абрамава, раней ужо судзімая за махлярства, перыядычна здымала ў абласным цэнтры кватэры і выстаўляла іх на продаж па выгадных цэнах. Пры сустрэчы з патэнцыйнымі пакупнікамі яна казала, што з'яўляецца рыэлтарам або работніцай агенцтва па дзяржрэгістрацыі і атрымлівала ад іх буйныя сумы грошай, абяцаючы самастойна аформіць неабходныя дакументы. Акрамя гэтага, жанчына прасіла ў людзей грошы ў пазыку.

У дачыненні да махляркі распачата 12 крымінальных спраў за крадзяжы шляхам падману і злоўжывання даверам. Сума шкоды склала не менш за 1 мільярд рублёў.

Цяпер жанчына знаходзіцца пад вартай. Следчыя працягваюць шукаць магчымых пацярпелых і просяць звяртацца па тэлефоне ўсіх, хто сутыкаўся з Абрамавай: (8-0152) 72-42-01 або (8-0152) 72-40-40.

**УШ**

## У Ірландыі забілі беларуса

24-гадовы Дзмітрый Грынкевіч памёр у пятніцу ўвечары ў бальніцы горада Тралі ад траўмаў, атрыманых пры нападзе невядомых.

Дзмітрыя знайшлі на лужку перад домам у мясцовасці Кілен-Вуд горада Тралі ўвечары 30 верасня. З сур'ёзнымі траўмамі галавы ён быў тэрмінова дастаўлены ў бальніцу, дзе памёр у пятніцу.

Паліцыя ў інтарэсах следства адмовілася апублікаваць вынікі ўскрыцця. Мяркуецца, што ў той дзень Дзмітрый адправіўся ў Кілен-Вуд на вечарынку. У сераду ўвечары паліцыя затрымала там двух ураджэнцаў Усходняй Еўропы, але пазней яны былі адпушчаныя без выстаўлення абвінавачванняў.

Дзмітрый Грынкевіч быў мясцовай знакамітасцю і трэцім па вышыні чалавекам у Ірландыі — яго рост 2 метры 32 сантыметры.

Яго знаёмыя апісваюць беларуса як «сціплага маладога чалавека, які саромеўся свайго росту, любіў музыку і спорт». СМІ таксама паведамляюць пра тое, што пасля заканчэння школы Грынкевіч некалькі разоў прыцягваўся да адказнасці за розныя дробныя парушэнні.

Адным з матываў нападу, якія разглядае мясцовая паліцыя, магло быць паходжанне маладога чалавека. Дзмітрый пераехаў у Ірландыю падлеткам разам з сям'ёй з Мінска.

**УШ**

## Сцісла

### ДТЗ з-за кацянят

У Мінску на МКАД адбылося ДТЗ з удзелам чатырох аўто пасля таго, як кіроўца аднаго з іх спыніўся, каб дапамагчы кацянятам, якіх заўважыў на ўскрайку дарогі. Ані людзі, ані кацяняты не пацярпелі.

### 19 гадоў за забойства немаўляці

Жыхары Гомеля, якія пакінулі дзіця ў кватэры і зніклі на некалькі месяцаў, асуджаны на 19 гадоў пазбаўлення волі. Апроч таго, даказана, што яны пакінулі ў пад'ездзе шматпавярховіка іншае немаўля. Нованароджанага хлопчыка выратавалі жыхары дома.

### Спрабаваў згвалціць школьніцу

У Дзятлаве затрыманы малады чалавек, які напаў на непаўналетнюю дзяўчынку. Яго падазраюць у гвалтоўных дзеяннях сэксуальнага характару. Малады чалавек афіцыйна працуе дворнікам, а ў вольны час дапамагае ў адным з мясцовых касцёлаў.

### Дзевяцікласнік згвалціў першакласніка

За згвалтаванне першакласніка ў Светлагорскім раёне 16-гадовы навучэнец той жа школы атрымаў восем гадоў. Інцыдэнт адбыўся ў красавіку ў школьным туалеце, які знаходзіцца ў двары вясковай школы. Цяпер падлетка адправяць у калонію.

### У Віцебску гарэла бальніца хуткай дапамогі

З-за пажару эвакуявалі 70 чалавек. Ніхто не пацярпеў.

### Забойцу не расстраляюць

Берасцеец, які забіў брата і нявестку, асуджаны на 24 гады зняволення. Пар гэтую справу «НН» пісала ў мінулым нумары. 47-гадовы Аляксандр жорстка збіў свайго роднага брата, а потым задушыў яго жонку. Іх целы ён закапаў у хляве.

**УШ**

# Як нам палепшыць Кангрэс даследчыкаў Беларусі?

Кніга **Настассі Скеп'ян «Князі Слуцкія»** прызнаная найлепшай гістарычнай працай года.

Кангрэс даследчыкаў Беларусі — гэта форум, дзе можна ўжывую пагаварыць з прафесарам **Вулгайзерам**, філосафам **Бабковым**, найлепшымі знаўцамі беларускай мовы **Саўкам і Раманоўскім**. Паслухаць даклад грандыёзнага кніжніка **Ігара Клімава**. Увечары выпіць піва на Лайсвесалеі з палітолагам **Рыгорам Астапенем** і эканамістам **Глебам Шымановічам**. Пабачыць мыш перакладчыцы **Малгажаты Бухалік** — яна, мыш, таксама наведала Кангрэс.

Гэта такі вясёлы інтэлектуальны кацёл, якія рэдка сустрэнеш.

Бачацца ў Коўне людзі з розных краін. Сёлета было 11 секцый: ад палітычных навук да гісторыі. А выступоўцы былі з 19 краін, у тым ліку такіх далёкіх, як Турцыя і Казахстан. Найбольш прадстаўнічымі былі дэлегацыі Расіі, Літвы, Польшчы, Украіны. Адносна мала было ўдзельнікаў з Нямеччыны і ЗША — арганізатары не маюць магчымасці аплачваць білеты, гэта ўплывае на наведвальнасць. Тым не менш на V Кангрэс сёлета запісалася 450 удзельнікаў і 80 гасцей.




Варта было б беларускім дабрадзеям мабілізаваць наяўныя фінансы на падтрымку Кангрэсу. Ковенскі кангрэс дае магчымасць даследчыкам з розных краін кантактаваць, пераймаць найлепшыя практыкі і новыя методыкі.

Варта было б, у прыватнасці, павялічыць грашовае напаўненне прэмій Кангрэсу.

Нарэшце, трэба грошы на аплату праезду ўдзельнікаў з Беларусі. Не ўсе могуць сабе гэта дазволіць. Бізнэсоўцам ці праграмістам, можа быць, дзіўна такое чуць, але навукоўцам ці інтэлектуалам з іх даходамі часам бывае цяжка дазволіць сабе вытраціць 60 даляраў на падарожжа ў Коўна.

Як бачыце, гаворка не ідзе пра каласальныя сумы. Любы чалавек, які мае магчымасць ахвяраваць раз у год тысячу даляраў, можа зрабіць карысную справу і, як калісьці прыгожа казалі, «застацца ў памяці нашчадкаў».

Вось перадала сям'я **Васіля Быкава** ягоную дачу дзяржаве пад музей. Так і стаіць той будынак у Ждановічах закрыты, і прадказальна. А калі б той дом здаваць у арэнду, а грошы накіроўваць на прэмію Кангрэсу ў галіне гуманітарных навук або на «камандзіровачныя» для навукоўцаў, гэта было б найлепшае ўшанаванне памяці. Але мусіць нешта змяніцца ў нашых каштоўнасцях, каб у нас пачалі так мысліць.

Кульмінацыяй Кангрэсу заўжды ёсць цырымонія ўручэння прэмій за найлепшыя публікацыі апошніх двух гадоў.

Летась лаўрэатамі былі **Алесь Белы** з кнігай «Імагалогія Белай Русі» і **Уладзімір Лобач**, «Міф. Прастора. Чалавек».

Сёлета прэмію за найлепшую гістарычную кнігу атрымала **Настасся Скеп'ян (на фота)** з Акадэміі навук Беларусі за кнігу «Князі Слуцкія». З яе сенсацыйным адкрыццём, што праваслаўная святая Сафія Слуцкая была каталічкай, «Наша Ніва» ўжо знаёміла.

Прэмію імя Зоры Кіпель за найлепшую кнігу ў галіне гуманітарных навук атрымаў прафесар раней БДУ, а цяпер Варшаўскага ўніверсітэта **Мікола Хаўстовіч** за кнігу «Літаратура Беларусі XVIII—XIX стагоддзяў».

Асобна былі ўганараваныя аўтары найлепшых артыкулаў.

У галіне гісторыі гэта гродзенскі гісторык **Сяргей Токць** за артыкул «Нараджальнасць і смяротнасць у традыцыйнай сялянскай супольнасці Беларусі XIX — пачатку XX ст. (па матэрыялах Глыбоцкага прыхода)».

У галіне гуманітарных навук гэта крытык **Маргарыта Аляшкевіч** з артыкулам «Стратэгіі поспеху ў беларускай літаратурнай крытыцы».

У галіне сацыяльна-палітычных навук гэта **Аляксей Ластоўскі** і **Надзея Яфімава** з выдатным артыкулам «Вытокі нацыянальнай дзяржаўнасці ў беларускай гістарычнай памяці».

Нарэшце, прэмію за найлепшую замежную кнігу атрымала гарвардская прафесарка **Маргарыта Бальмасэда** за кнігу **Living the High Life in Minsk. Russian Energy Rents, Domestic Populism and Belarus' Impending Crisis**.

Дарэчы, Бальмасэда працуе на кафедры Украінскага Гарвардскага інстытута, закладзенага на ахвяраванні ўкраінскай дыяспары.

Навука, як і адукацыя, а таксама сродкі масавай інфармацыі — гэта базавыя справы для кожнага грамадства. Дай бог, каб беларусы хутчэй перасталі думаць, што навука, адукацыя і СМІ павінны фінансавацца толькі за грошы дзяржавы (аўтарытарнай) або гранты (замежныя). Не, гэта павінна быць таксама справай дабрачынцаў!

**Андрэй Дынько**

**Камунтавічус і Блашчак**

А беларусам універсітэт Каўнаса дапамагае таму, што ў ім працуе некалькі выдатных навукоўцаў, якія надзвычай спагадліва ставяцца да Беларусі. Гэта літовец Русціс Камунтавічус і паляк Томаш Блашчак. Яны і дапамагаюць «маладым беларусам» ва ўсіх іх пачынаннях.

Камунтавічус, дырэктар Інстытута Вялікага Княства Літоўскага, мае погляд не традыцыйны для літоўскіх гісторыкаў. Мала таго, што ён прызнае ролю беларусаў у ВКЛ, дык яшчэ і кажа, што часам гэтая роля была галоўная.

**Каўнас — Коўна**

Па-літоўску гэты горад на сутоках Нёмана і Вяллі называецца Каўнас. У беларусаў раней бытавала такая яго назва — Коўна.

**Вітаўта Вялікага ўніверсітэт**

Чаму ў Каўнасе адбываюцца гэтыя кангрэсы? Бо Кангрэсы даследчыкаў Беларусі ладзіць суполка навукоўцаў — палітолагаў пераважна, але не толькі, — якая называецца «Інстытут «Палітычная сфера». А яна мае цесныя сувязі з ковенскім Універсітэтам Вітаўта Вялікага.

**Стаўкі**

## Топ-10 прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію па літаратуры

8 кастрычніка ў Стакгольме будзе абвешчанае імя чарговага лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Пакуль «НН» дойдзе да некаторых з Вас,імя новага лаўрэата ўжо будзе вядома. Тым больш цікава будзе параўнаць, якіх жа кандыдатаў лічылі найбольш імавернымі букмекеры.

Умоўнае лідарства ў букмекерскіх спісах зусім не азначае канчатковую перамогу. Варта ўспомніць, як два гады таму безумоўнай фаварыткай лічылася беларуска Святлана Алексіевіч, але прэмія ад яе сышла канадцы Эліс Манро. Летась француз Патрык Мадыяно лічыўся толькі чацвёртым.

Тым не менш Нобеля амаль заўсёды атрымліваюць пісьменнікі з першай дзясяткі. Вось як выглядаюць рэйтынгі па стане на 6 кастрычніка.

1. **Святлана Алексіевіч (Беларусь, 67 гадоў)**
2. Юн Фосэ (Нарвегія, 55 гадоў)
3. Харукі Муракамі (Японія, 66 гадоў)
4. Нгугі Ва Тхіёнга (Кенія, 77 гадоў)
5. Джон Бэнвіл (Ірландыя, 69 гадоў)
6. Джойс Кэрал Оўтс (ЗША, 77 гадоў)
7. Філіп Рот (ЗША, 82 гады)
8. Петэр Хандке (Аўстрыя, 72 гады)
9. Петэр Надаш (Венгрыя, 72 гады)
10. Адоніс (Сірыя, 85 гадоў)

# Дырыжор мураваных харалаў

Гісторыку архітэктуры **Тамары Габрусь** — 70 гадоў.

Яе кнігі — «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока», «Саборы помняць усё: готыка і рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі», «Сакральнае дойлідства Беларусі: 1000-гадовая спадчына» — сталі абавязковымі крыніцамі для вывучэння нацыянальнае спадчыны. А на падручніку Тамары Габрусь «Мастацтва бачыць свет» вывучылася пакаленне школьнікаў.

Да таго ж яна піша вершы і сцэнары фільмаў.

Габрусь нарадзілася ў спустошаным паваенным Мінску. Яе бацька, Віктар Лукашавіч Хадыка, быў родам з Сенненшчыны, — адзін з першых інжынераў-будаўнікоў, якія атрымалі цалкам беларускую адукацыю.

Яе брат Юры Хадыка — доктар фізіка-матэматычных навук, вядомы папулярызатар класічнае беларускае культуры, ініцыятар стварэння Музея старажытнабеларускай культуры.

Муж Тамары Віктараўны — Іван Габрусь, кандыдат філасофскіх навук, нарадзіўся ў вёсцы Казулічы, дзе калісь настаўнічаў Пімен Панчанка.

У далёкія 1960-я гады Тамара Габрусь паступіла на архітэктуру ў Беларускі політэхнічны інстытут.

А летам 1968 г., літаральна праз некалькі дзён пасля заканчэння БПІ, яна з сябрамі пайшла ў вандроўку па Беларусі.

Той хаўрус сабрала мастацтвазнаўца Эleанора Вецер, якая працавала экскурсаводам у Мастацкім музеі і адначасна выкладала на мастацкім факультэце Акадэміі мастацтваў. У тую



групу ўвайшлі мастакі Генадзь Сакалоў, Віктар Сташчанюк, Любоў Міньковіч, фізікі Уладзімір Карэлін, Людміла Катомцава ды адзіны сярод іх прафесійны архітэктар — Тамара Габрусь. Гэтаку нашай краіне з'явілася новая генерацыя на змену растаптанаму ў 1930-я пакаленню.

Нават словазлучэння «беларускае барока» пасля арышту М.Шчакаціхіна і рэпрэсій 1930-х ужо проста не існавала ў беларускім мастацтвазнаўстве, а з працамі Шчакаціхіна можна было пазнаёміцца толькі ў бібліятэчных спецсховах.

У Нясвіжы Тамара Габрусь усвядоміла сваё прызначэнне. Бо да тае пары беларускую архітэктуру ў Беларусі не выкладалі наогул. Нідзе. У тым ліку і будучым архітэктарам. Вострае пачуццё невераемнага захаплення і крыўды за сваё няведанне сталі стымулам да вывучэння гісторыі, якому Тамара Габрусь прысвяціла ўсё далейшае жыццё.

Восенню таго ж года яна апублікавала ў «ЛіМе» свой першы артыкул пад назвай «Мы ехалі не па адкрыцці».

З цягам часу яна пазнаёмілася з Уладзімірам Караткевічам, Зянонам Пазняком, Лявонам Баразной, Міхасём Раманюком, Яўгенам Кулікам і іншымі знакавымі асобамі Беларускага Адраджэння.

У 1969 годзе Тамара Габрусь разам з іншымі інтэлігентамі-патрыётамі падпісала ліст у абарону Верхняга горада і раёна Нямігі ў Мінску, што быў надрукаваны ў маскоўскай газеце «Правда» і выклікаў шырокі рэзананс.

Знакавай падзеяй жыцця сама Тамара Габрусь лічыць і знаёмства з Данілам Міцкевічам і ўдзел пад яго наглядам за растаўрацыяй памятных мясцінаў Якуба Коласа на Стаўбцоўшчыне.

А ў 1976 годзе Тамара Габрусь атрымала прапанову ад акадэміка Д.С.Ліхачова напісаць пра разбурэнне старажытнае царквы ў вёсцы Дастоева пад палескім Янавым, з якой звязаны род Дастаеўскіх.

Каля чвэрці стагоддзя яна ўзначальвала архітэктурныя секцыі розных радаў Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Дзякуючы ў тым ліку Габрусь былі захаваныя, а ўрэшце і адноўленыя храмы ў Навагрудку, Клецку, Слоніме.

Тамара Габрусь прачытала незлічоную колькасць папулярных лекцый у Таварыстве «Веды», напісала сотні артыкулаў да «Збору помнікаў Беларусі», энцыклапедый.

У яе ёсць два сыны — Міхал і Юры, а таксама гадуецца ўнук Цімох. А сама даследчыца рыхтуе для ўдзячных чытачоў новыя кнігі. І той, хто ўмее шчэ сэрцам чуваць, зможа спрычыніцца да гэтага бязмежнага багацця нашай спадчыны.

**Сяргей Харэўскі**

# «Ён пісаў прэзідэнту, каб яго ўзялі ў інтэрнат для інвалідаў»

«Наша Ніва» атрымала ліст ад сябра Дзмітрыя Арцёмава — жабрака, які стаў **ахвяраю бесчалавечнага абыходжання міліцыі** ў пераходзе каля метро «Уручча». Вось гэтае пісьмо.

Добры дзень, «Наша Ніва». Пішу Вам з нагоды інцыдэнту ў пераходзе метро «Уручча», калі работнікі міліцыі жорстка затрымалі сляпога грамадзяніна, які аказаў ім супраціў, а народ заступіўся.

Мяне там не было, пра ўсё даведаўся з «НН», але магу сказаць некалькі добрых слоў пра сляпога Дзмітрыя. Мяне завуць Юрый, я з 2003 года па магчымасці дапамагаў яму прадуктамі харчавання, праводзіў дадому, зрэдку выконваў розныя даручэнні. Нягледзячы на крымінальнае мінулае, Дзіма — шчыры вернік, сапраўды не ўжывае спіртнога, заўсёды ахайны, паголены, ветлівы. Дзякуючы яго прыкладу я і сам паступова кінуў выпіваць — мне заўсёды было сорамна перад ім, калі гэта здаралася. Нягледзячы на сваё страшнае няшчасце, гэты чалавек не спіўся і не наклаў на сябе рукі. Дзіма маліўся за здароўе маіх дзяцей і за ўсіх людзей, якія трапілі ў бяду, калі да яго звярталіся.

Дзмітрый казаў мне, што вельмі хоча вярнуцца ў інтэрнат для інвалідаў, дзе ён раней жыў. Нядаўна нам параілі адправіць ліст прэзідэнту, бо звароты ў іншыя інстанцыі нічога не далі. Вось тэкст гэтага ліста:

«Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, звяртаецца да Вас сляпы чалавек.

Калі ласка, дапамажыце мне пасяліцца ў інтэрнат для інвалідаў па вул. Ваўпшасава, 33. Вельмі спадзяюся на Вашу міласэрнасць.

Сам я дзетдомавец. Цяпер мне 41 год. Спачатку працаваў, потым стаў выпіваць і пайшоў па злачынным шляху. У выніку дзве судзімасці за крадзяжы. Жыллё, выдзеленае мне дзяржавай, давялося аддаць за даўгі. Гэта было 14 гадоў таму.

Тады ж з-за траўмы страціў я зрок. Дзяржава не пакінула ў бядзе і дала магчымасць пражываць у інтэрнаце для інвалідаў (Ваўпшасава, 33). Але па дурасці, лічачы сябе несправядліва пакрыўджаным умовамі ўтрымання, парушаў рэжым. У выніку мне аддалі пашпарт, і я сышоў жыць да сястры (яна таксама дзетдомаўская), якая пражывае з дачкой у 1-пакаёвай кватэры па вул. Шугаева, д. 11, кв.94.

Зараз палова маёй пенсіі па інваліднасці сыходзіць на аплату гэтай кватэры. На харчаванне сродкаў не хапае, хоць я прашу міласціну ў пераходзе метро. Але міліцыя выганяе. Мінакі дапамагаюць мне дабірацца дадому.

Невідушчаму жыць вельмі цяжка, абслугоўваю сябе сам.

Я глыбока раскаяўся ў сваім распусным жыцці, паверыў у Бога. Ісус Хрыстос вельмі дапамагае пераадольваць мне штодзённыя цяжкасці. Вось ужо больш за 10 гадоў я не дакранаюся да спіртнога і ўсім людзям прапаведую Евангелле дзеля адпушчэння грахоў.

У роднай жа сястры жыць стала невыносна. Яна маці-адзіночка, выпівае, жыве выпадковымі заробкамі (маляр). Запазычанасць за святло і ваду назапасілася непад'ёмная. Адключылі электрычнасць. Стаіць пытанне аб яе высяленні. А мне давядзецца жыць у пад'ездзе.

Вярнуцца ў інтэрнат мне не дазваляюць. У 2014 годзе добрыя людзі дапамаглі мне звярнуцца ў Першамайскі выканкам з гэтай просьбай. Мы сабралі ўсе даведкі, я прайшоў медкамісію. Але ў выніку — толькі часова зарэгістравалі ў Доме начнога знаходжання для бамжоў (без засялення). Адмова была матываваная тым, што я не здаў нейкія рэчы, калі сыходзіў з інтэрната. Згодны пакрыць.

Паважаны прэзідэнт! Цяпер мне дапамаглі скласці гэтую заяву да Вас з надзеяй на станоўчае рашэнне. Прашу Вас вельмі, дапамажыце вярнуцца ў інтэрнат для інвалідаў на вул. Ваўпшасава, 33 ці ў які-небудзь іншы. Калі ласка, не пакіньце свайго грамадзяніна ў бядзе.

З павагай, Арцёмаў Д.М.»

Ліст быў дасланы з паведамленнем аб уручэнні. Адказ прыйшоў неадкладна.

А на днях у пераход падышла сацыяльны работнік (Дзіма казаў, што яе клічуць Васілісай і называў нумар яе тэлефона) і сказала, што цяпер ім будуць займацца, прыйдуць абследаваць жыллёвыя ўмовы. Дзіма падпісаў паперы і ўжо рыхтаваўся з панядзелка праходзіць медкамісію ў раённай паліклініцы. Дарэчы, знайшлася дзяўчынка, суседка, якая за 198 тысяч, на туфлі, падахвоцілася вадзіць яго па кабінетах…

І тут яго затрымлівае міліцыя.

Я думаю, што ва ўсіх там здалі нервы, асабліва ў Дзімы, да таго ж незадоўга да гэтага ў кватэры абрэзалі за няcплату святло, плітка электрычная, запазычанасць за кватэру пераваліла за 33 млн, «сястра невядома дзе п'янствуе». Дзіма вельмі перажываў.

З павагай,

**Юрый Субат, Мінск**

## Чарговае назіранне пра выбары

Іду я ў Мінску побач з крамай «Элема» па адрасе Маякоўскага, 20, а там стаіць пікет за Лукашэнку. Выкацілі калонкі, іграе нейкая жахлівая папса, але штосьці пяюць пра Белую Русь. Добра, што хоць папса беларуская.

Затым праходжу другі раз, калі пікет ужо згортваўся. Праходжу, значыцца, і бачу, што мужычкі ўзялі ўвесь рыштунак, калоначкі і пацягнулі ў краму. Нейкая цётка ва ўніформе «Элемы» зычным голасам сказала мужычкам, што заўтра можна выставіць пікет ад 10.00 раніцы.

І як гэта стасуецца з прынцыпам роўнасці ўсіх кандыдатаў? Ніяк не стасуецца. Цікава, калі пікет Караткевіч заявіцца ў краму, каб да раніцы патрымаць рыштунак, што ім скажуць? Скажуць, што нельга. Канечне, агітацыя за Лукашэнку ў нас справа дзяржаўная: усе «сазнацельныя» крамы, прадпрыемствы, установы, не шкадуючы сваіх і бюджэтных сродкаў, павінны агітаваць за Лукашэнку.

**Уладзь Лабковіч, facebook.com**

## Народная паліталогія

З хлопцамі, з якімі гуляю штотыдзень у баскетбол, вырашыў пагаварыць пра палітыку. Яны далёкія ад «асяроддзя», «гета» — словаў такіх нават не ведаюць. За 40 гадоў, вышэйшая адукацыя, абсалютна апалітычныя, уладу не любяць. Далей — згустак выказванняў трох чалавек.

«Какие выборы? Лукашенко уже запланировал на ноябрь визит в Китай — какие выборы? Приду я на участок или не приду — они все равно всё уже заранее посчитали. Мне, конечно, хочется голосовать — гражданский долг и всё такое, это ж моё государство. Но я не знаю, что тут сделать, чтобы мой голос не своровали: или бюллетень разрисовать, или написать там что».

**Віталь Цыганкоў, facebook.com**

## Палохаюць назіральнікаў

У Слуцкім раёне з падачы намесніка старшыні райвыканкама па ідэалогіі Дабравольскай Ларысы Генадзеўны пачалося цкаванне тых, хто даў сваю згоду быць назіральнікамі ад «Права Выбару». Некаторым людзям ужо абвесцілі, калі яны будуць назіральнікамі ад «Права выбара», то іх чакае звальненне з працы па артыкуле. І ўжо чатыры чалавекі, а гэта маладыя спецыялісты, пазванілі мне і адмовіліся ад назірання, як я іх ні ўпрошваў і як ні супакойваў.

**Уладзімір Юрэвіч, Слуцк**

## Студэнтаў БНТУ прымушаюць галасаваць датэрмінова



Чытач «Нашай Нівы» даслаў фота, як студэнты стаяць у чарзе па галасаванне.

«Прымушаюць прагаласаваць абавязкова сёння. Увесь участак — толькі 3-ці студэнцкі інтэрнат БНТУ».

Намеснік дэкана аднаго з факультэтаў БНТУ пагражала студэнтам высяленнем з інтэрнатаў пасля Новага Году ў тым выпадку, калі яны не прагаласуюць датэрмінова.

**Мікіта Недаверкаў**

Піша Сяргей Ваганаў.

# Яўхім і Галіяф

**…Недзе ўвесну** 1991 года, мо ў сакавіку, да порта Хайфы прычаліў велізарны паром з Грэцыі, і з ягонага чэрава разам з агромністымі грузавікамі выкаціўся яркачырвоны «масквіч»…

Пакуль пакінем яго на здзіўленне ізраільцян, якія мо ўпершыню ўбачылі такі цуд, і вернемся ў Мінск, у восень 1989 года, калі Міхаіл Бойка, намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання «Белаўтамаз» па эканамічных пытаннях, заявіў аб тым, што па ўласным жаданні пакідае працу і КПСС. Ад пасады яго вызвалілі, а вось з партыі так проста, без цырымоніі, сысці не далі. Выключылі з фармулёўкай «за памылкі ў развіцці кааператыўнага руху…». Па заводзе папаўзлі чуткі, што ў яго знайшлі мільён.

Водгаласы даходзілі і да мяне, калі я цікавіўся гэтай гісторыяй і наведваў самыя розныя начальніцкія кабінеты, аж но да ўрадавых. На пытанне, адкуль узяўся гэты мільён, або паціскалі плячыма, або адказвалі проста і выразна: няўдалага эканаміста з усімі трыбухамі купіў Яўхім Гурыс, старшыня кааператыва «Бярэзіна».

Бойку я не ведаў, а вось знаёмства з Яўхімам было даўняе, гадоў з дваццаць. З таго моманту, калі я прыгнаў на станцыю тэхабслугоўвання новенькі «Масквіч-408», які бязбожна паядаў масла. Гурыс быў тады інжынерам АЗЛК па гарантыі, галоўным, так бы мовіць, «масквічоўскім» доктарам у Мінску. У чысцюткім сінім халаце з фірмовым знакам, што па тым часе было надзвычайнай навіной, ён сеў за стырно і стаў праслухоўваць аўто, сапраўды як доктар хворага… І надалей я не аднойчы меў магчымасць упэўніцца, што не памыліўся ў першым уражанні. Памятаю, як засмуціўся, калі на іншай станцыі тэхабслугоўвання (слова «сэрвіс» яшчэ не ўжывалася) да машыны падышлі два ну зусім хлопчыкі яшчэ, гадоў мо пятнаццаць. Трэба было бачыць, як па-майстэрску яны працавалі! «Дзе навучыліся, хлопцы?» — «У школе, у вучэбна-вытворчым камбінаце, цяпер на практыцы». — «А хто настаўнік?» — «Гурыс Яўхім Майсеевіч. Мо чулі? Во!» — і адзін з іх, хударлявы і бялявы, высока ўзняў замаслены палец.

**…Пра тое,** што Яўхім стаўся кааператарам, я дазнаўся ці не на два гады раней, калі выпадкова сустрэў яго ў фае Інстытута тэхнічнай эстэтыкі побач з ярка размаляваным, незнаёмай канструкцыі прычэпам да легкавіка. Вакол тоўпіліся людзі, Яўхім нешта ім тлумачыў…

Кааператыў прыдумаў не Яўхім. Яўхім прыдумаў прычэп.

Кааператыў прыдумаў вядомы пісьменнік, сусед па цешчыным лецішчы. Прыглядаўся, прыглядаўся, як Яўхім поркаецца са сваім дзецішчам у гаражы, ды і папракнуў: маўляў, «не па-грамадзянску» рабіць такі добры і такі патрэбны народу прычэп у адзіным экземпляры… Карацей, кааператыў быў створаны па знаёмстве вядомага пісьменніка з генеральным дырэктарам «Белаўтамаза».

Знаёмства знаёмствам, але Яўхім насамрэч прыдумаў і зрабіў вельмі добры прычэп. Калі ён выставіў яго перад заводакіраўніцтвам побач з мазаўскім «Зубранём», любому хоць трохі дасведчанаму чалавеку было зразумела, што «ТОМ-650» (такое пазней Яўхім надаў прычэпу імя) дае «Зубраняці» вялікую фору: прасцейшы і больш надзейны ў эксплуатацыі, больш тэхналагічны ў вытворчасці і, урэшце, прыгажэйшы… А галоўнае — значна таннейшы.

Дарэчы, пра «ТОМ» — «Творчае аб'яднанне механікаў». Насамрэч, аб'яднанне Гурыса з механікай. Спачатку назва была іншая — «Мустанг». Сакратар парткама скрывіўся: «Не наша…» — «Добра, хай будзе «ТОМ»…

Зрэшты, назвы яшчэ не было, калі адмыслоўцы на чале з генеральным параўноўвалі два прычэпы. Пасля чаго справа пайшла…



Гурыс, Кеша і прычэп.

**Я прапускаю** падрабязнасці гэтай справы — сілы, час, грошы і нервы, што былі патрачаны на выраб доследнага ўзору і яго выпрабаванні. Прапускаю сістэму разлікаў ды іншых узаемаадносін з заводам, у каторага Яўхім купляў па рознічных коштах камплектуючыя і каторamu спраўна аплачваў усе паслугі. У тым ліку паслугі рабочых у пазаўрочны час — з імі і з цэхам пафарбоўкі былі заключаны адпаведныя дамовы… Але галоўнае — і Бойка, і генеральны дырэктар М.Лаўрыновіч убачылі перспектыву, пра што сведчыў шэраг загадаў па пашырэнні вытворчасці «ТОМаў». Гаворка нават была пра стварэнне дзяржаўна-кааператыўнай фірмы. «Зубраня», што праўда, і без «ТОМа» быў нарасхват. Але толькі на ўнутраным рынку. На знешнім — абсалютны нуль. Карацей, справа патыхала валютай.

**…Перадапошні** са згаданых загадаў з'явіўся літаральна перад апошнім — аб спыненні ўсялякіх адносін з кааператывам. Як, зрэшты, і з астатнімі двума дзясяткамі, што былі створаны пры заводзе.

Распараджэнне аб разводзе Лаўрыновіч аддаў па тэлефоне непасрэдна з Камітэта народнага кантролю БССР, куды яго запрасілі, каб паказаць міну, якую ён і ягоны намеснік па эканоміцы падклалі пад сістэму дзяржаўнага кіравання вытворчасцю. У «міне» той былі два запальнікі: некалькі лакальных страйкаў на заводзе — сярод іншых было патрабаванне хутчэй пераходзіць да рынкава-кааператыўных форм гаспадарання. Другі запальнік — Гурыс нечакана-негадана «разбагацеў». Па меркаванні злавеснага КНК — пры актыўнай і карыслівай дапамозе Бойкі і згубе пільнасці з боку генеральнага.

Пракуратура Заводскага раёна распачала следства.

**…Гурыс «разбагацеў»**, калі прадаў тэхнічную дакументацыю на с в о й выраб чатыром заводам СССР. Прычым усе яны адшукалі яго самі. «Бабруйскферммаш» (сёння «Бабруйскаграмаш») — пасля таго, як на выпрабаваннях разваліўся нямецкі прычэп. Адэскі аўтазборачны — калі адмовіўся ад «Зубраняці» з-за нізкай тэхналагічнасці, састарэлай канструкцыі, доўгіх клопатаў і вялікіх выдаткаў, звязаных з пастаноўкай на вытворчасць. «ТОМ-650» быў пастаўлены на серыйную вытворчасць за … чатыры месяцы. І сёння адмыслоўцы ведаюць кошт такога кароткага тэрміну…

Як прыстойны чалавек, Гурыс прыйшоў да Лаўрыновіча: маўляў, не пярэчыце? Хаця мог і не пытацца. Генеральны ўсміхнуўся: «Ды ну, яны нам не канкурэнты…» Тое праўда, попыт на прычэпы да легкавікоў бязмежны.

Слова «разбагацеў» я бяру ў двукоссі па адной прычыне: грошы, якія Гурыс атрымаў у якасці аўтарскай платы, планавалася ўкласці ў развіццё вытворчасці, то бок ператварыць у к а п і т а л. Яму і сапраўды надакучыла поркацца ў гаражы. А каб перанесці вытворчасць «ТОМаў» у заводскі цэх, перш-наперш трэба было набыць абсталяванне. Да таго ж Гурыс зрабіў матаблок. У тым жа гаражы, пакуль у адзіным экзэмпляры…

Трэба сказаць, што іншага капіталу ў Гурыса не б было — цягам года кааператыў жыў толькі за грошы ад продажу чарговага прычэпа. З 18, што паспеў зрабіць у гаражы…

Ну а чым быў для эсэсэраўскай эканомікі прыватны капітал, як не тым каменем, якім безабаронны біблейскі герой запусціў з прашчы ў закаванага ў браню велікана?!

**Нагадаю:** адчуваючы пад СССР тэктанічныя зрухі, яго кіраўніцтва цягам распачатай перабудовы бездапаможна намагалася скіраваць мілітарысцкую эканоміку на пераадоленне татальнага дэфіцыту, то бок на так званую «вытворчасць тавараў народнага ўжытку», у асноўным праз стварэнне кааператываў. У 1988 годзе быў прыняты Закон «Аб кааперацыі ў СССР», які павінен быў стымуляваць развіццё кааперацыі. Такім чынам, кааператары першымі сталі на шлях свабоднага рынку. Чаго Сістэма, у якой існаваў СССР, заклапочаная сваёй будучыняй, перажыць не магла. Унутры сябе яна была гатовая спарадзіць і знесці любую хлусню, карыслівасць і ўсеагульную зладзеяватасць. Загразшы ў граху і трасучы перад народам прасцірадламі сваёй ідэалагічнай цнатлівасці, яна не здольная была нарадзіць дзіця без выродлівасці. І калі падрослы малец перастаў слухацца маці, яна залямантавала: спекуляцыя… нажыва… распродаж айчыны! Вядомыя «вашывыя блохі» — гэта адтуль…

**Сёння ўсё** гэта пазабывалася, сталася мо толькі матэрыялам для дысертацый. Але прыглядзецца, дык і сёння Галіяф жывы, толькі ў абліччы так званага алігархату, які непарыўна, нібы сіямскія блізняткі, спалучаны з уладай. А тады, напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, Сістэма выставіла свайго Галіяфа, уклаўшы ў яго рукі вельмі моцную зброю: КНК, пракуратура, суд, міліцыя, дзяржарбітраж, паклёпніцкія артыкулы ў прэсе, у прыватнасці, фельетон у «Вожыку» пад назвай «Гурыс і Ко». Апошняя зброя асабліва каварная, да таго ж з антысеміцкім, у духу часу, душком. Як яшчэ вырашаць пракуратура з міліцыяй, судамі ды арбітражам? А мы ўжо ведаем: стаць багатым без крадзяжу немагчыма. Унь, матуля ягоная дзясяткамі выкідае на сметнік пустыя бляшаначкі з-пад ікры, па начах, каб ніхто не бачыў… І што з таго, што бабульцы 90 гадоў? Хітраванцы ж, вядома… Абакраў Гурыс завод, далібог абакраў… З-за гэтых гурысаў нават рубель абясцэніўся, народ збяднеў, дзяржава рушыцца…

Мо хтосьці і сёння так лічыць. Але нагадаю: зброя ў тагачаснага Галіяфа аказалася не вельмі прыдатнай. Як ні намагалася пракуратура спачатку «прышыць» крымінал, то бок крадзеж, а потым высмактаць з кааператыва «Бярэзіна» вялізныя грошы на карысць «Белаўтамаза», нічога ў яе не атрымалася — Гаспадарчы суд пазоў адхіліў. Мо і не адхіліў бы, каб не бліскучы адвакат Яўхім Лапушын. Я быў на разглядзе той справы. Такой доказнай, а не толькі, як гэта больш звыкла, эмацыйнай, прамовы адваката я больш ані ў якіх судах не чуў.

Выйграў Гурыс і ў раённым судзе, аднавіў закрыты кааператыў і рахунак з грашыма, якія чакалі пераўтварэння ў капітал. Не дачакаліся. Разам з Гурысам, якому бойка з Галіяфам каштавала не толькі здароўя, але і веры ў тое, што страшыдла сканала.

**…Так з'язджаць** у Ізраіль, як гэта зрабіў Гурыс, яшчэ ніхто не з'язджаў. На грошы, што мусілі змярцвела чакаць свайго часу, купіў так званы «суперМАЗ» — агромністую фуру з прычэпам. Якая-ніякая, а ўсё ж гарантыя больш-менш упэўненага пачатку новага жыцця. Што праўда, такі продаж прыватнай асобе наўрад ці быў дазволены. Але ці кіраўніцтва завода адчувала перад Гурысам вінаватасць, ці проста памятала, як ён ледзь не падлеткам, з 16 гадоў, пачынаў тут сваё працоўнае жыццё, як без адрыву ад гэтага жыцця вучыўся ў БПІ, як здабываў перамогі для Беларусі і завода на ўсесаюзных спаборніцтвах аўта- і мотагоншчыкаў…

Адным словам, пагрузіў Гурыс у той «суперМАЗ» свой чырвоны «масквіч», згаданы матаблок, жонку і любага, невядомай дваровай пароды, адданага Кешу… У Польшчы «гарантыю» разам з матаблокам вымушаны быў прадаць — яшчэ на мяжы нехта з мытнікаў падлічыў, якое мыта прыйдзецца заплаціць за ўвоз у Ізраіль…

Праз два месяцы пераадольвання розных, часам небяспечных дарожных і бюракратычных цяжкасцей чырвоны «масквіч» з Гурысамі выкаціўся з парома на ізраільскае ўзбярэжжа.

Праз паўтара года Гурысы вярнуліся ў Мінск. Па афіцыйнай версіі — Кеша не знайшоў агульнай мовы з ізраільскімі суродзічамі.

Вярнуліся без анічога, нават без чырвонага «масквіча». Але на выпадак новай бойкі з Галіяфам — з «каменьчыкам». Не за пазухай, у кішэні — з характарыстыкай, адрасаванай усім аўтасэрвісам свету. Генеральны дырэктар ізраільскай сеткі па продажы і абслугоўванні «БМВ» не стрымліваў хвалебных эмоцый на адрас свайго галоўнага механіка. Але яго самога не ўтрымаў…

**Новай бойкі,** аднак, не адбылося — Яўхім і Галіяф прызвычаіліся адзін да аднаго, у жыцці, якое стварыла свой іншы працяг, сваю іншую гісторыю, жывуць побач. Але тое, што засталося ў мінулым, раз-пораз нагадвае пра сябе весткамі пра датычных да гісторыі з гурысаўскім прычэпам.

Апошняя — зусім сумная: памёр Яўхім Лапушын. У Чыкага, куды з'ехаў ад Галіяфа ў сярэдзіне 90-х.

Міхася Бойку ці не адразу пасля звальнення з завода купілі «акулы імперыялізму» з Нью-Ёрка. Падазраю, што за трохі большыя грошы, чым той, па чутках, гурысаўскі «мільён». Памятаю, як пры знаёмстве ўразілі мяне ягоны прыгожы адкрыты твар і натхнёная маладосць…

МАЗ, што ні дзень, паміpae, не дае яму дыхнуць нованароджаны Галіяф. Калісьці мо так і напішуць: «Пасля доўгай працяглай хваробы…»

Але ёсць і добрая вестка — ад прычэпа «ТОМ-650». Жывы, кожны дзень нараджаецца на заводзе «Бабруйскаграмаш», па сейфах і кабінетах каторага чвэрць стагоддзя таму пракуратура шукала нібыта скрадзеную Гурысам тэхнічную дакументацыю. Што праўда, дадалося да яго дзецішча і новае імя — «Бабраня». На мой густ, дык вельмі пяшчотнае.

Але ж добра вядома, у якога нястомнага працаўніка вырастае ў рэшце рэшт ласкавае бабраня.

І з якімі зубамі.

# Чалавек ідзе дахаты

Піша **Васіль Герасімчык**.



Дарога дахаты — гэта заўсёды шлях па краіне мараў, якія ахінаюць цябе пяшчотнай цеплынёй надзеі і веры. Ідзеш на сваёй хвалі, адзначаеш непрыкметныя тутэйшым жыхарам змены, заўважныя толькі табе аднаму — даўно вандроўніку і госцю ў краі дзяцінства. І спадзяванні надаюць яшчэ больш упэўненасці ды шырыні кроку.

Няхай студзень казыча вушы ды нос, чаравікі слізгаюць па рыпучым снезе, а на плячо ціснe двухпудовая торба, запоўненая бруднай бялізнай, кнігамі ды прысмакамі для родных. Чацвертая гадзіна, а ты шпарка нясешся пад халодным зорным небам, сам-насам з цэлым светам, у задавальненні ад свайго адзіноцтва. Як тыя зоркі, што раз за разам мільгацяць і знікаюць у цені, шчаслівыя ад падараванага камусьці святла.

Я ведаю кожны ўзгорачак на гэтай дарозе ад горада да вёскі, кожнае дрэўца і яр. Кожны дарожны знак і павароты, па якіх можна дайсці да самага гарызонту. Іду па цемры, у абдымках з маёй лунаючай фантазіяй. Разгортваю сабраную за шматлікія гады калекцыю родных краявідаў і аб'ядноўваю іх у разнастайныя панарамы, якія жывуць у часе і прасторы. Вось ледавік — паміраючы, ён нараджае Раку і дае жыццё беларускай Швейцарыі. Узгоркі, якія нагадваюць прыемныя жаночыя формы і пад якімі спяць магутныя волаты. Нават у гэты час ад рэдкага бляску вясковых хат цягне недасяжнай цеплынёй. У імкненні да яе я крочу яшчэ шпарчэй і адчуваю, як схаваныя пад швэдрам і курткай струменьчыкі павольна збягаюць па спіне.

Як толькі звярнуў з галоўнай дарогі ў бок роднай вёскі, на мяне адразу невыносным цяжарам абрынуліся мірыяды сняжынак. Непрыемна білі ў твар, джалілі ў шчокі, залазілі ў вушы і, расплаўленыя, заставаліся цвёрдай коркай на шаліку. Я ішоў навобмацак, ужо праз некалькі хвілін ногі пачалі правальвацца ў гурбах снегу.

Завіруха з усяе моцы абрынулася на мяне, адзіную сваю ахвяру ў радыусе некалькіх кіламетраў. Такая гульня была мне недаспадобы, але выйсці з яе я не мог. Па чарзе расплюшчваючы вочы, я бачыў не далей за ўласны нос, і таму цягнуўся хутчэй інтуітыўна, чым па фізічных арыенцірах. Некалькі разоў спыняўся, адварочваўся ад шалёнага рою, каб перавесці дух, абцерці цвёрдую корку з шаліка, і зноў абмотваў ім твар.

Першапачатковы душэўны запал даўно знік. Некалі ўпэўнены крок ператварыўся ў блытанае шкандыбанне, кіраванае толькі адчуваннем блізкасці гарачай гарбаты ды цёплага ложка. Ногі не жадалі паглыбляцца ў амаль па калена нацягнутыя завірухай гурбы. Вочы ўсё часцей заплюшчваліся, стомленыя амаль двухдзённай адсутнасцю сну ды цяжкай дарогай.

Раптам я спатыкнуўся і ўпаў тварам у снег. Я ляжаў як віртувіянскі чалавек, не ў стане ні ўзняцца, ні перакуліцца на ператвораную ў лядзяк спіну.

Вочы заплюшчыліся, і на мяне разам са снегам праз адчыненае неба навалiліся сотні вар'яцкіх вобразаў. Кроў прынесена ў ахвяру юнака. Яна сцякае з вялізнага каменя, размешчанага на вяршыні гары, да якой прытулілася мая вёска. Жанчыны ў вопратцы Евы, запрэжаныя ў плуг. Яны ноччу праводзяць разору вакол вёскі. Маладую дзяўчынку, цудам уратаваную ад цяжкай хваробы, што спустошыла ўсю ваколіцу. Акрамя нашай вёскі, куды яна прыйшла прасіць дапамогі і побач з якой яе пахавалі жыўцом. Дваіх каханых... Напярэдадні ўласнага вяселля тыя вяртаюцца з горада. За рулём п'яны таксіст, які ўрэзваецца ў вялізную таполю побач з вёскай. Ён выжывае. Яны — не. Застаюцца дзвюма зорачкамі на непрывабнага выгляду помніку, з супрацьлеглага боку ад знака з надпісам назвы вёскі.

Колькі я праляжаў — не ведаю, але калі ачуняў, то завіруха амаль скончылася. Адпачынак пайшоў мне на карысць, ды і вёска павінна быць побач. Праўда, торба дзесьці згубілася. Позірк намацаў яе абрысы за некалькі метраў. Але за крок да рэчаў я заўважыў два халодныя блакітныя агеньчыкі над імі. Яны свідравалі мяне, быццам крамянёвую сякеру. Страх ахапіў усё цела, паралізаванае раптоўным адкрыццём, што гэта вочы нейкага звера. Воўк?

Я даў драпака з усяе моцы. Адкульсьці з'явіліся яшчэ нядаўна зніклыя сілы. Ужо бачыў вяршыні старых таполяў на паўднёвым ускрайку вёскі, калі адчуў, што хтосьці бяжыць за мной. Гэта сапраўдны тупат, быццам барабаны.Я быў ужо ля самай вёскі. Унутраная радасць апанавала мяне і надала дадатковыя сілы. Але раптам заўважыў, што да бліжэйшых велічэзных дрэў не наблізіўся ні на крок. Быццам бег на адным месцы.

Жудасны барабанны гук ззаду набліжаўся. Азірацца я не стаў, баючыся яшчэ раз сустрэцца позіркам з халоднымі блакітнымі агеньчыкамі. Стаяць на месцы таксама не збіраўся, і таму звярнуў з дарогі, маючы намер дабрацца да найбліжэйшай хаты па дапамогу да яе гаспадароў.

Адразу ж па пояс праваліўся ў снег. Кожны крок даваўся з цяжкасцю. Паступова я заўважыў, што пераследу ззаду не чутно. Аднак, як высветлілася, я пайшоў не ў той бок і апынуўся побач з Ракой.

Страх адступіў, прыйшло шкадаванне аб згубленай торбе. Я сеў на беразе і пачаў думаць, што рабіць далей. Вёска ляжала быццам на далоні, але ўсё роўна здавалася недасяжна далёкай. Зноў стома апанавала мяне. Я глядзеў у бок дарогі, дзе спынілася машына, і цяпер асвятляла занесены завірухай кавалак шляху, не ў стане яго праехаць. Мне нават падалося, што яна развярнулася і спрабуе аб'ехаць вёску па праробленых мною слядох. З такой дзіўнай думкай я ўзняўся на ногі і вырашыў дабрацца да вёскі па схаванай лёдам рацэ. Снегу тут было значна менш, чым на адкрытай прасторы, што адчуў з першых крокаў.

Але не паспеў нават трохі прайсціся, як рака ажыла барабанным грукатам і праглынула мяне. Паглыбляючыся ў бездань цемры, я ўзіраўся ў адкрытае ў лёдзе акенца: праз усё неба на мяне глядзелі дзве невялікія зорачкі, якія, здавалася, імкнуліся дацягнуцца да мяне.

...Расплюшчыў я вочы ад пеўнікавага крэчу. Мяне ўсяго калаціла і прабірала трасца. Я сядзеў на снезе, спінаю абапіраючыся на слуп знака з назваю вёскі. Насупраць знаходзіўся помнік у гонар загінулых каханых, які ўзіраўся на мяне дзвюма зорачкамі-вочкамі. Побач стаяла торба. Сухога месца на мне не было, уся адзежа паспела ператварыцца ў ледзяную корку.



**Васіль Герасімчык**

Гісторык, літаратар. Нарадзіўся ў Васілевічах пад Слонімам. Жыве ў Гродне.



## Святлана Куль
## Ева

Ён разлляваўся,
абяцаў агонь пякельны,
Бясконцы шлях паміж
пакутаў і грахоў,
Ды я б сама пайшла,
бо тут няма патэльні,
Няма каструль, відэльцаў,
лыжак і гаршкоў,

Адная манна, ні навару ў ёй,
ні гушчы,
Карова сіняя, а з ёй арол ды леў.
Хадзіў галодны мой мужык
па райскіх кушчах,
Дык я прынесла яблык,
каб крыху пад'еў!

Не трэба голадам марыць
майго Адама.
Не прабачаюся — няма маёй віны.
Сама пайду. На развітанне
грукну брамай,
А на Зямлі зраблю мачанку і бліны.




**Лейці вялікага князя літоўскага**

Выйшаў з друку пераклад на беларускую мову працы вядомага літоўскага даследчыка Артура Дубоніса пад назвай «Лейці вялікага князя літоўскага».

Гэтая кніга — даследаванне нараджэння, развіцця і заняпаду ў Вялікім Княстве Літоўскім служылага саслоўя лейцяў. Лейці служылі ў якасці памежнай варты, абаранялі замкі, адстойвалі велікакняскую ўладу на ўскраінах і ўтаймоўвалі незадаволеных ёй; пазней яны даглядалі коней гаспадара і суправаджалі яго ў падарожжах. Праз звыклую сучаснаму чытачу структуру палітычных і эканамічных адносін, на якіх грунтавалася Вялікае Княства Літоўскае, у кнізе праступае структура асабістых сувязяў паміж яго людзьмі, ад гаспадара да служылага лейця.

Выданне можна замовіць, даслаўшы электронны ліст на адрас dastauka@arche.by.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Барысаўскі БАТЭ атрымаў выдатную перамогу над італьянскай «Ромай» — 3:2. Асабліва ў хлопцаў Ермаковіча атрымаўся першы тайм, у якім яны забілі аж тры галы. 20 кастрычніка ў Барысаў прыедзе «Барселона».**


**Аляксандр Лукашэнка разам з сынам Колем узяў удзел у прыёме ад імя прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Барака Абамы ў гонар кіраўнікоў дэлегацый на 70-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, 28 верасня 2015 года.**



**У мінскім метро з’явілася графіці, прысвечанае інцыдэнту са сляпым жабраком. Болей пра сітуацыю — старонка 13.**


**Прыхільніцы клуба «Варвары» з Гродна, які выступае ва Усходняй лізе амерыканскага футбола (УЛАФ), падтрымалі хлопцаў эратычнымі фотаздымкамі.**


**«Было вельмі смешна, калі мне аднойчы сказалі: «Табе будзе вельмі цяжка знайсці мужа, бо ў цябе ўсё ёсць». Маўляў, муж патрэбны, каб забяспечыў кватэрай, машынай, грошы на модныя сукенкі даваў. Але гэта не так. Бяда сучасных дзяўчат у тым, што яны вельмі меркантыльна ставяцца да хлапцоў. Мне, напрыклад, патрэбен не гаманец з грашыма, а партнёр, блізкі па духу чалавек, з якім можна смела разам крочыць па жыцці, развівацца як асоба. Няма больш агіднага, чым разам дэградаваць», — сказала лёгкаатлетка Аліна Талай у інтэрв’ю выданню «Будзьма».**

## ☺ Анекдоты і жарты

* * *

— Я ні разу не спазняўся на працу.
— У чым твой сакрэт?
— Я беспрацоўны.

* * *

Добры настрой — гэта калі дурні цябе не раздражняюць, а весяляць.

* * *

— Ты хто па знаку задыяка?
— Рак.
— Добра. А свістаць умееш?
— Умею.
— Проста выдатна. Можа, айда ў горы?

* * *

Восень... Адпачыўшы і набраўшыся сіл і здароўя на дачах, пенсіянеры вяртаюцца ў паліклінікі.

* * *

Распальваючы вогнішча для шашлыкоў, галоўнае — не захапіцца чытаннем газет 10-гадовай даўніны!

* * *

Сабраліся разам пяць сяброўак, а размаўляць няма пра што. Бо сабраліся ўсе.

* * *

Часам я проста хачу, каб мяне хтосьці абняў і сказаў: «Я ведаю, цяжка. Але ўсё будзе добра! Вось табе шакаладка і 6 мільёнаў даляраў».

* * *

— Міхась, вось табе дзесяць цукерак, палову аддай брацiку.
— Я яму аддам тры штукі.
— Ты што, не ўмееш лічыць?
— Я якраз умею, а вось ён — не.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нясвіж.** Тут малыцы, пазбіраўшыся, згаварыліся лавіць ластавак у гнёздах, але калі адзін з іх узлез па лесвіцы да гнязда, дык паслізнуўся і зваліўся. Пры гэтым паламаў сабе нагу так, што яго давялося несці ў бальніцу. Пасля гэтага і другім адпала ахвота лавіць гэтых карысных для чалавека птушак.

**«НН». №41. 1910.**

**Выбар зроблены: Мілінкевіч.** У Палацы культуры МАЗа абіралі лідара апазіцыі. «Сярод 809 бюлетэняў выявілі 3 несапраўдныя. 391 голас быў аддадзены за Анатоля Лябедзьку, 399 — за Аляксандра Мілінкевіча». Зала ўзарвалася воклічамі «Жыве Беларусь», словы Мілінкевіча пятнаццаць разоў перапыняліся апладысментамі. Найбольшыя прагучалі пасля фразы «Я свята веру ў перамогу!».

**«НН». №37. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 06.10.2015.
Замова №3942.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 15037